**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** | **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

31 мая 2000 года
Цана 75 рублёў

**№ 22 (2684)**

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года


ПАДЗЕЯ



## ТРЭЦІ МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС БЕЛАРУСІСТАЎ

У Мінску ў Нацыянальнай акадэміі навук беларусісты свету сабраліся на свой трэці кангрэс, назва якога "Беларусь і ўсветная супольнасць: узаемадзеянне і ўзаемаўзбагачэнне культур (да 2000-годдзя хрысціянства)". На гэты раз вырашана падзяліць работу на дзве сесіі: вясеннюю — цяперашнюю і асеннюю.

На кангрэс сабралася шаноўная навуковая грамада — 270 чалавек з 11 краін свету — найвышэйшыя аўтарытэты ў галіне беларусазнаўства. Сярод іх гісторыкі, філосафы, філолагі, літаратуразнаўцы, мастацтвазнаўцы, культуролагі — прафесары, дактары навук, кіраўнікі вышэйшых навучальных устаноў.

Сузаснавальнікі Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў (у 1991 годзе) адпаведна спрычыніліся і да арганізацыі кангрэса — гэта Міністэрствы адукацыі, замежных спраў, культуры Беларусі, Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны. Свой уклад у арганізацыю сустрэчы ўнеслі таксама Беларускі інстытут праблем культуры, грамадскае аб'яднанне "Фонд у імя Крыжа св. Ефрасінні Полацкай", Міністэрства фінансаў Беларусі, Польскі інстытут у Мінску, Харытатыўны фонд (Англія) і асабіста прафесар Анджэй Цеханавецкі (Англія).

Напярэдадні ўрачыстага адкрыцця кангрэса адбылася прэзентацыя кніг удзельнікаў, а таксама зборнікаў "Беларусіка-14" і "Беларусіка-15", падрыхтаваных Скарынаўскім цэнтрам.

Ранкам 22 мая ў зале пасяджэнняў Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі прафесар Адам Мальдзіс адкрыў пленарнае пасяджэнне. Прагучалі віншаванні ад сузаснавальнікаў асацыяцыі, і пачалася напружаная праца. Хаця першыя гадзіны пасля адкрыцця кангрэса часам больш нагадвалі ўзрушаную святочную атмасферу доўгачаканай сустрэчы старых сяброў. Ды як жа інакш, калі ў праграме кангрэса значацца імёны Зоры і Вітаўта Кіпеляў (ЗША), Радзіма Гарэцкага, Надзеі Высоцкай, Уладзіміра Конана, айца Аляксандра Надсона (Англія), Яна Чыквіна, Вальдэмара Дэлюга, Яўгена Мірановіча (Польшча), Раісы Жук-Грышкевіч (Канада), Рыгора Піўтарака (Украіна), Анатоля і Валянціна Грыцкевічаў, Аліцыі Борута-Садкоўскі (ЗША), Монікі Банькаўскі-Цюліг (Швейцарыя), Цімафея Ліякумовіча (ЗША), Алега Лойкі, Аляксандра Баршчэўскага з Польшчы, Янкі Запрудніка (ЗША), Веры Рыч з Лондана... Ды ці пералічыш амаль тры сотні ўдзельнікаў, кожны з якіх адметная постаць, адзначаная высокімі навуковымі рэгаліямі.

Пасля пленарнага пачаліся пасяджэнні секцый: "Хрысціянства і Беларусь", "Францішак Скарына і еўрапейская культура", "Мовазнаўства", "Гісторыя", "Літаратуразнаўства", "Культуралогія, мастацтвазнаўства" і так званыя "круглыя сталы": "Беларусь — Балтыя", "Беларусь — Украіна", "Беларусь — Расія", "Беларусь — Польшча", "Беларусь — краіны Заходняй і Цэнтральнай Еўропы".

Было вельмі прыемна бачыць сярод удзельнікаў кангрэса чытачоў і аўтараў нашай газеты, чуць іх прыязныя водгукі пра штотыднёвік. Так, апостальскі візітатар для беларусаў-католікаў, дырэктар Беларускай бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане айцец Аляксандр Надсон не толькі прыязна выказаўся ў адрас рэдакцыйнага калектыву, але і адзначыў культурны раздзел "Голасу Радзімы". На кангрэсе спадар Надсон выступіў з дакладам "Праблемы перакладу літургічных тэкстаў". Гэты аспект цікавіць многіх даследчыкаў як праваслаўнай, так і каталіцкай плыні. Напрыклад, біскуп Антоній Дзямянка з Гродна, які мае непасрэднае дачыненне да справы беларусізацыі літургій у беларускіх касцёлах, выказаў сваё станоўчае стаўленне да адзначанага працэсу. Дарэчы, яго выступленне прагучала на добрай беларускай мове. Тэма навуковага даклада біскупа — "Рыма-каталіцкі касцёл на Беларусі".

Каталіцкага свяшчэнніка падтрымаў праваслаўны: айцец Сергій Гардун з Мінска падрыхтаваў выступленне на тэму "Праблемы перакладу Святога Пісання на беларускую мову".

Увогуле ўражвае разнастайнасць тэм навуковых дакладаў, прапанаваных кангрэсу. У сваім уступным слове Адам Мальдзіс адзначыў: кола беларусістаў пашыраецца, і яму вельмі прыемна бачыць у зале маладыя зацікаўленыя твары. Беларусазнаўства рушыць у заўтрашні дзень.

*НА ЗДЫМКУ: старшыня Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адам МАЛЬДЗІС.*

**Галіна УЛІЦЁНАК.**
**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**



*Ветразі на Свіслачы.*
**Фота Уладзіміра СІДАРОВІЧА.**

ФЕСТЫВАЛІ

**КІНО "ЗАЛАТОГА ВІЦЯЗЯ".** У Маскве праходзіць дзевяты Міжнародны кінафестываль "Залаты віцязь". На ім прадстаўлены і работы беларускіх кінематаграфістаў: мастацкі фільм "Губернатар" рэжысёра Я. Мацвеева (сумесная вытворчасць Расіі і Беларусі), дакументальны фільм "Свечка на ўзвышшы" рэжысёра М. Ждануўскага, анімацыйныя фільмы "Церам-церамок" А. Ленкіна, "Фантазёрка" Т. Жыткоўскай, "Дзіўная вячэра на куццю" І. Кадзюковай і іншыя.

Па меркаванню намесніка міністра культуры Беларусі Юрыя Цвяткова, найбольш шансаў атрымаць узнагароды ў айчынных стваральнікаў анімацыйных фільмаў.

Дэвіз фестывалю "За маральныя, хрысціянскія ідэалы. За ўзвышэнне душы чалавека" стаў прыцягальным для кінематаграфістаў з 35 краін свету: Расіі, Беларусі, Украіны, Югаславіі, Польшчы, Румыніі, Чэхіі, Славакіі, Грузіі, Грэцыі, Малдовы, Венгрыі, ЗША, Італіі, Англіі, Аўстраліі, Германіі, Францыі, Японіі, Кітая і іншых.

**Таццяна КУВАРЫНА.**

СЮРПРЫЗЫ НАДВОР'Я

## ТО ЗАМАРАЗКІ, ТО ПАЖАРЫ

● **Ірына ГАЙ.**

Прырода ў апошнія гады ўвесь час падкідвае непрыемныя сюрпрызы. Два гады назад ішлі зацяжныя дажджы, праносіліся ўраганы. Затым стаяла працяглая спякота.

А сёлета ў маі, пасля красавіцкай спякоты, ударылі замаразкі.

Яны нанеслі вялізную шкоду сельскагаспадарчым пасевам у Беларусі. Па даных Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, у краіне загінула каля 600 тысяч гектараў пасеваў, у асноўным азімых. Асабліва пацярпелі Брэсцкая і Мінская вобласці. Участкі, што загінулі, прыйшлося перасяваць.

І разам з тым у многіх раёнах Беларусі ў сувязі з вельмі сухім надвор'ем гараць тарфянікі, узнікаюць лакальныя пажары ў лясах. Аднак чуткі аб нібыта павышаным узроўні радыяцыі не маюць пад сабой ніякіх падстаў. Аб гэтым паведамілі ў штабе грамадзянскай абароны Мінска. Памочнік начальніка штаба адзначыў, што ўзровень радыяцыйнага фону ў сталіцы складае 12—14 мікрарэнтген пры дапушчальнай норме — 20 мікрарэнтген.

Паводле інфармацыі, атрыманай у Рэспубліканскім цэнтры радыяцыйнага кантролю і маніторынгу прыроднага асяроддзя Дзяржкамгідрамета, радыяцыйны фон на тэрыторыі нашай краіны — у межах нормы. Лясныя пажары, якія цяпер бушуюць у раёнах Гомельскай вобласці, не робяць істотнага ўплыву на радыяцыйны фон.



БелТА.

## АФІЦЫЙНЫЯ СУСТРЭЧЫ

**МІНСК З АФІЦЫЙНЫМ ТРОХДЗЁННЫМ ВІЗІТАМ НАВЕДАЛА ДЭЛЕГАЦЫЯ РЭСПУБЛІКІ КАЗАХСТАН НА ЧАЛЕ З ПРЭЗІДЭНТАМ КРАІНЫ НУРСУЛТАНАМ НАЗАРБАЕВЫМ.** Гэта другі па ліку афіцыйны візіт казахстанскага лідэра ў Беларусь. Першы адбыўся больш як чатыры гады таму — у студзені 1996 года.

Адзін з цэнтральных пунктаў візіту Нурсултана Назарбаева — пера-гаворы з Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам. Прэзідэнты правялі сустрэчу сам-насам, а затым прайшлі перагаворы дэлегацый дзвюх краін у пашыраным саставе. Пасля іх заканчэння падпісана міжурадавае Пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне атэстацыі навуковых і навукова-тэхнічных кадраў вышэйшай кваліфікацыі, а таксама Пагадненне аб устанаўленні гандлёва-эканамічных, навукова-тэхнічных і культурных сувязей паміж гарадамі Мінск і Астана. У Доме ўрада адбылася сустрэча прэм'ер-міністраў Беларусі і Казахстана, на якой абмеркаваны канкрэтныя аспекты двухбаковага гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва.

23 мая Нурсултан Назарбаеў прыняў удзел у пасяджэнні Міждзяржаўнага савета дзяржаў — удзельніц Мытнага саюза. А 24 мая — у пасяджэнні Савета калектыўнай бяспекі ў Выканаўчым камітэце СНД.

Сярод іншых пунктаў праграмы знаходжання прэзідэнта Казахстана ў Мінску — сустрэча з прафесарска-выкладчыцкім саставам і студэнтамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, наведванне вытворчага аб'яднання "Інтэграл", а таксама пасольства Рэспублікі Казахстан у Мінску.

Неабходна адзначыць: цяпер Казахстан з'яўляецца адным з галоўных партнёраў Беларусі сярод дзяр-жаў СНД, што выразна праяўляецца як у сферы знешняй палітыкі, так і ў галіне гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва. Рэспубліка займае трэцяе месца сярод краін Садружнасці па аб'ёму гандлёвага абароту з нашай краінай, уступаючы толькі Расіі і Украіне. У 1999 годзе таваразварот з Казахстанам склаў 40,856 мільёна долараў ЗША, пры гэтым беларускі экспарт быў эквівалентны 28,365 мільёна долараў, імпарт — 12,491 мільёна.

Паміж Беларуссю і Казахстанам падпісана больш як 30 міждзяржаўных дагавораў і пагадненняў, сярод якіх значная колькасць — дакументы эканамічнага характару. З восені мінулага года ўступіла ў дзеянне Пагадненне аб прынцыпе спагнання ўскосных падаткаў пры экспарце і імпарце тавараў. Ва ўзаемаадносінах з Казахстанам ажыццяўляецца рэжым спагнання ўскосных падаткаў па прынцыпу "краіны прызначэння". Гэта павышае канкурэнтаздольнасць беларускіх і казахстанскіх тавараў, пашырае магчымасці ўзаемнага гандлю.

**Вадзім МІЛЦЫН, БелТА.**



*Нурсултану НАЗАРБАЕВУ дыплом ганаровага доктара Белдзяржуніверсітэта ўручае рэктар БДУ Аляксандр КАЗУЛІН.*

■ **Праблемы беларуска-расійскіх узаемаадносін** былі абмеркаваны ў ходзе сустрэчы Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі з кіраўніком Расійскай дзяржавы Уладзімірам Пуціным. Яна адбылася ў першай палавіне дня 23 мая ў фармаце "сам-насам" адразу пасля прыезду расійскага лідэра ў Мінск для ўдзелу ў пасяджэннях Міждзяржаўнага Савета і сесіі Савета калектыўнай бяспекі СНД.

■ Звыш дзесяці пытанняў, якія тычацца далейшага развіцця супрацоўніцтва ў розных сферах, а таксама абрання кіраўнікоў органаў кіравання інтэграцыяй, **было разгледжана на пашыраным пасяджэнні Міждзяржаўнага Савета Мытнага саюза**, якое прайшло 23 мая ў Мінску. Удзел у ім прынялі кіраўнікі Беларусі, Расіі, Казахстана, Кіргізіі і Таджыкістана — Аляксандр Лукашэнка, Уладзімір Пуцін, Нурсултан Назарбаеў, Аскар Акаеў, Эмамалі Рахмонаў, а таксама старшыні ўрадаў гэтых краін, кіраўнікі знешнепалітычных ведамстваў і іншых міністэрстваў.

## СПОРТ

**ФУТБОЛ.** Удала выступае жаночая зборная Беларусі ў адборачным турніры чэмпіяната свету. Беларускі з лікам 7:0 выйгралі ў сапернiц з Эстоніі.

**МОТАКРОС.** 35-ты традыцыйны міжнародны мотакрос памяці Героя Савецкага Саюза Міная Шмырова прайшоў на трасе ў Тулаве пад Віцебскам. У ім прынялі ўдзел каля 100 спартсменаў з Расіі, Літвы і Беларусі, якія спаборнічалі ў пяці класах матацыклаў.




Адзін з пераможцаў заезду ў класе 65 кубічных сантыметраў віцэбляніна Барыс ЛУКОМСКІ.

## САЦЫЯЛЬНЫ РАКУРС

# ЧЫЙ КЛОПАТ — АЗДАРАЎЛЕННЕ ДЗЯЦЕЙ?

У грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы прайшоў "круглы стол" на тэму "Аздараўленне дзяцей — клопат дзяржавы". Праўда, адзіным прадстаўніком дзяржаўных структур на ім быў начальнік упраўлення медыка-сацыяльнай рэабілітацыі і санаторна-курортнага лячэння Міністэрства аховы здароўя Беларусі Віктар Калбанаў. Ён падкрэсліў, што аздараўленне павінна быць няспынным працэсам. 18 беларускіх дзіцячых санаторыяў праводзяць не аздараўленне, а рэабілітацыю. Гэта значыць, што на іх могуць разлічваць зусім хворыя дзеці. Летась, дарэчы, у іх адпачыла 2 238 дзяцей (сярод якіх 1 760 інвалідаў).

Віктар Калбанаў звярнуў увагу на недастатковасць абгрунтавання самога паняцця "аздараўленне" і заўважыў, што яно не з'яўляецца галоўным клопатам сістэмы аховы здароўя. Але ж варта нагадаць, што ўсе беларускія дзеці з забруджаных і фармальна чыстых раёнаў Беларусі ад самай справе пацярпелі ад чарнобыльскай трагедыі і жывуць у экалагічна небяспечнай зоне. Таму ім усім, асабліва жыхарам буйных гарадоў, неабходна выязджаць на прыроду і аздараўляцца. Ці ёсць у звычайных грамадзян такія магчымасці?

У Беларусі пры вялікіх прадпрыемствах працуюць лагеры адпачынку. Супрацоўнікі заводаў і фабрык маюць значныя скідкі, калі набываюць туды пуцёўкі. Але служачыя, настаўнікі, медыкі, якія маюць вельмі невялікую зарплату, павінны плаціць поўную цану. У рэшце рэшт большасць сем'яў не мае магчымасці адправіць дзіця ў лагер больш як на 20 дзён. У асноўным маленькія гараджане едуць на вёску (калі ёсць да каго), на дачы.

Хоць неяк разраджае сітуацыю дзейнасць аб'яднанняў, фондаў, якія вывозяць дзяцей на адпачынак за мяжу. Дырэктар Рэспубліканскага дзіцячага дабрачыннага аб'яднання "Свет для дзяцей" Тамара Шчукіна лічыць, што тэрмін аздараўлення павінен быць як мага больш працяглым. Гэтая арганізацыя вывозіць дзяцей у Італію і Іспанію мінімум на два, максімум на тры месяцы кругны год. Летась ёй удалося аздаравіць 2 000 дзяцей. Дабрачынны італьянскі фонд "Дапаможам ім жыць" працуе на Беларусі дзевяты год з аслабленымі дзецьмі, якія пакутуюць на розныя хранічныя захворванні (выехала 6 000 дзяцей). Значную частку з іх складаюць сіроты.

Кожнае лета 500 дзяцей адпачывае за мяжой, дзякуючы Беларускаму таварыству дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. Асаблівасць працы таварыства ў тым, што яно працуе толькі з фондамі Італіі, Швецыі, Германіі, якія прымаюць дзяцей абсалютна бясплатна. Дзейнасць фондаў не абыходзіцца без праблем. Здараецца, вывозяць адных і тых жа дзяцей па некалькі разоў. Справа ў тым, што аб гэтым просяць меناвіта італьянскія сем'і. Іх вельмі цяжка пераканаць, што на Беларусі шмат дзяцей, якія ніколі ў жыцці не пакідалі краіну.

У Беларусі разумеюць, што нельга спекуляваць на чарнобыльскай катастрофе, але ўвесь свет павінен ведаць, што гэтая праблема актуальная для Беларусі і сёння. І калі нехта (мне б хацелася, каб гэта была мая краіна з сур'ёзнай праграмай аздараўлення дзяцей) зацікаўлены падтрымаць дзяцей, дапамагайце.

**Алена СПАСЮК.**

# ЗДРАЎНІЦА ЛЯ ГЕЛЕНДЖЫКА

Карысную і нялёгкую ў наш складаны час справу — стварыць беларускі дзіцячы аздараўленчы цэнтр на чарнаморскім узбярэжжы — распачалі грамадскае аб'яднанне Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз "Чарнобыль" (прэзідэнт Васіль Якавенка), краснадарскае прадпрыемства "Чарнобыль — Поўдзень — Рэкрэацыя" (заснаванае беларусамі, генеральны дырэктар Васіль Касінец) і міжнародная грамадская арганізацыя "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" (прэзідэнт — Радзім Гарэцкі). Па задуме заснавальнікаў гэтага праекта, цэнтр павінен аздараўляць дзяцей на працягу ўсяго года. Клопатамі ініцыятараў ужо атрымана 2 гектары зямлі ў доўгатэрміновую арэнду ў вельмі прыдатным для гэтай мэты месцы — каля пасёлка Дзіўнаморскае, што за 6 кіламетраў ад знакамітага курортнага Геленджыка. Сябры ўправы "ЗБС "Бацькаўшчына" і Беларускага сацыяльна-экалагічнага саюза "Чарнобыль" абмеркавалі далейшыя крокі — подступы да здзяйснення гэтай задумы, свае магчымасці.

Ініцыятары праекта праз беларускія сродкі масавай інфармацыі ("Настаўніцкую газету", "Звязду", "Знамя юности" і іншыя) звярнуліся да падлеткаў, настаўнікаў, спецыялістаў з заклікам выказаць свае меркаванні, якія дапамогуць зрабіць гэты цэнтр не толькі выдатнай аздараўленчай, але і нацыянальна адметнай установай (па архітэктурных рашэннях, аздабленнях пакояў і памяшканняў для грамадскіх мерапрыемстваў...). Калі ў вас, шаноўныя чытачы, з'явяцца прапановы на гэты конт, то пішыце на адрас: 220002, Мінск, вул. Крапоткіна, 44, БелСаЭС "Чарнобыль", тэл. 234-22-41, факс 210-18-80.

Арганізатары беларускага дзіцячага аздараўленчага цэнтра спадзяюцца на міжнародную падтрымку гэтага праекта.

**Галіна СЯРГЕЕВА.**

## МЯСЦОВАЯ ЎЛАДА

**Мы прывыклі ва ўсіх бедах вінаваціць уладу. З аднаго боку, менавіта ад яе ў значнай ступені залежыць наш дабрабыт. Але ж, калі пагля дзець з іншага боку, то без асабістых намаганняў наўрад ці атрымаецца гэтае шчаслівае жыццё-быццё. Тое, што прыйшло проста так, без намаганняў, як правіла, і праходзіць хутка.**

# «БУДЗЕМ

**І ўсё ж такі цікава, чым займаецца "вясковая ўлада" — самы пачатак усёй іерархіі. Каб паглядзець і пагутарыць з адным з яе радавых прадстаўнікоў, я прыехала ў звычайную, не вельмі вялікую вёску Далёкія, што на Браслаўшчыне. З прыемнасцю для сябе адзначыла: парадак тут наведзены. Вось што расказаў мне старшыня сельскага Савета дэпутатаў Аляксандр ЛАРЧАНКА.**

— У гэты цяжкі эканамічны час мы стараемся разам з жыхарамі вёсак, кіраўнікамі калгасаў, мясцовых прадпрыемстваў вырашаць самыя розныя пытанні сацыяльна-эканамічнага напрамку. Напрыклад, нядаўна мы разгледзелі на адным з пасяджэнняў выканкама сесіі сельсавета праблемы пажылых людзей, прааналізавалі выкананне праграмы сацыяльнай дапамогі адзінокім старым на тэрыторыі сельсавета.

Вядома, каб атрымаць станоўчыя зрухі, трэба больш узаемадзейнічаць, сустракацца з насельніцтвам. З гэтай мэтаю восенню і вясной праводзяцца сходы, дзе прысутнічаюць і мясцовая ўлада, і прадстаўнікі раённага выканаўчага камітэта. Так было вырашана пытанне забеспячэння газам

## СУД ДЫ СПРАВА

# ВЫНЕСЕНЫ ПРЫГАВОР ПА СПРАВЕ Міхаіла ЧЫГІРА

Мінскі гарадскі суд 19 мая прыгаварыў Міхаіла Чыгіра да трох гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прыгавору на два гады.

Быламу старшыні праўлення АКБ "Белаграпрамбанк", а пазней кіраўніку беларускага ўрада забаронена таксама на працягу пяці гадоў займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых функцый. Ён абавязаны не мяняць месца жыхарства.

Суд прызнаў вінаватым Міхаіла Чыгіра ў перавышэнні службовых паўнамоцтваў на пасадзе прэм'ер-міністра. Ён абавязаны кампенсаваць урон, нанесены дзяржаве, у памеры больш як 209 мільёнаў дэнамінаваных рублёў.

Асуджаны не лічыць сябе вінаватым і збіраецца звярнуцца ў Вярхоўны Суд, каб дабіцца апраўдальнага прыгавору.

**БелТА.**



трох вёсак, адкрылі перасоўную аўталаўку, а сёлета запланавана пакласці асфальт у самой вёсцы Далёкія. Каб неяк аблягчыць сялянам рашэнне розных праблем, члены выканкама выязджаюць у аддаленыя маленькія вёсачкі, дзе сустракаюцца з жыхарамі — часцей гэта ўжо пенсіянеры.

Сёння менавіта людзі пенсійнага ўзросту застаюцца ў вёсках, яны галаўны боль мясцовай улады. На тэрыторыі Далёкаўскага

# БЛІЖЭЙ ДА ЛЮДЗЕЙ...»

сельсавета 35 працэнтаў жыхароў — пенсіянеры, якім неабходны падтрымка і ўвага. Як паведаміў мне старшыня, робіцца ўсё магчымае. У 1999 годзе за сродкі з мясцовага бюджэту была заменена электраправодка ў шасці дамах. Дапамагаюць старым апрацоўваць прысядзібныя ўчасткі. Восем сацыяльных работнікаў выконваюць не толькі свае непасрэдныя абавязкі па догляду за нямоглымі, але і маральна падтрымліваюць іх. Адна справа прынесці прадукты, зусім іншая — яшчэ і пасядзець, пагаварыць, пазбавіць ад адзіноты.

На тэрыторыі сельскага савета знаходзяцца дзве школы — Далёкаўская сярэдняя і Богінская базавая. Дык вось пенсіянерам яшчэ і яны аказваюць шэфскую дапамогу. Такая работа выхоўвае моладзь, робіць з іх сапраўдных міласэрных людзей. Гэтыя вучні потым не кінуць сваіх бацькоў, не забудуцца пра родныя мясціны.

Не сакрэт, што ўся мясцовая моладзь зараз імкнецца вырвацца ў горад: не хоча яна капацца ў зямлі, як бацькі. Зразумець іх можна: там, у горадзе, тэатры, музеі, адным словам, цывілізацыя. Але маладыя рукі так *патрэбныя на вёсцы*. Аднак моладзь бяжыць ад паўсядзённай шэрасці. У Далёкіх спрабуюць нешта рабіць, каб зацікавіць юнакоў і дзяўчат. Калгас аддае ледзь не апошняе, каб толькі затрымаць лепшыя кадры. Абапал яшчэ няроўнай дарогі, як грыбы, растуць цагляныя дамы для маладых працаўнікоў і іх сямей.

— Стараемся як-небудзь адцягнуць ад звычайнага, невясёлага жыцця, — кажа Аляксандр Ларчанка. — Сельскі Дом культуры арганізаваў драматычны гурток, які ўжо паставіў і паказаў некалькі спектакляў. Працуюць малодшая, сярэдняя і старэйшая танцавальныя групы. Да нас прыязджаюць з канцэртамі артысты з Наваполацка. Свята вёскі — штогадовае свята для ўсіх. Якая чысціня наўкол, колькі песень, усмешак у гэты дзень! Кожная гаспадыня імкнецца атрымаць званне лепшай і частуе журы-гасцей нечым сваім, асабліва смачным.

Мой суразмоўца — па адукацыі настаўнік фізічнай культуры. Можа таму спартыўнае жыццё вёскі пад яго асабістым кантролем. І з дакладнасцю магу сказаць: спорт многа даў кожнаму з вяскоўцаў. Заняткі спартыўных секцый праводзіць Аляксандр Філімонавіч сам. Збіраюцца і калгаснікі, і школьнікі, хлопцы і дзяўчаты, дзеці і бацькі. Баскетбол, футбол, тэніс — асноўныя віды спорту, што падабаюцца. У гэтым годзе на раённых спаборніцтвах мясцовая каманда па баскетболу заняла другое месца.

У канцы нашай размовы старшыня сельскага савета дадаў:

— Я лічу, можна яшчэ зрабіць намнога больш. Улада павінна быць як мага бліжэй да людзей.

З апошнімі словамі старшыні цяжка не пагадзіцца. Самае *галоўнае*, трэба мець жаданне дапамагаць усім. Для кіраўніка гэта значыць быць на сваім месцы.

## СТАСУНКІ

**ДАПАМОГА З ОСТХАФЕНА.** Ужо 34-ты раз сустрэў Беларускі камітэт міру транспарт з дабрачыннай дапамогаю, арганізаваны дэканатам Евангелічнай царквы нямецкага горада Остхафена. Прадукты харчавання, абсталяванне, адзенне атрымаюць Івянецкая школа-інтэрнат Валожынскага раёна, дзіцячае анкалагічнае аддзяленне бальніцы ў Бараўлянах і іншыя ўстановы.

**І. КІРЫЧЭНКА.**

**ДЗЕНЬ ІЕРУСАЛІМА.** У Мінскім Палацы дзяцей і моладзі адзначаўся Дзень Іерусаліма. Свята было прысвечана 52-й гадавіне абвяшчэння незалежнасці яўрэйскай дзяржавы.

## ПАМЯЦЬ

# СУСТРЭЧЫ НА РОДНАЙ ЗЯМЛІ

З ініцыятывай сабраць ветэранаў-беларусаў, якія вызвалялі Беларусь у гады Вялікай Айчыннай вайны на свята, прысвечанае 55-годдзю Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі, звярнуліся кіраўнікі беларускіх грамадскіх арганізацый Прыднястроўя, Малдовы, Яраслаўля, Украіны. Яе падтрымалі Рэспубліканскі савет ветэранаў, Мінскі гарвыканкам, Міністэрства абароны, Дзяржкамітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей. І госці прыехалі. Кожны з 45 нашых баявых землякоў, якія прайшлі вайну,— гэта легенда.

"...Да вялікай радасці, я беларуска, — расказвае Соф'я ЗЕЛЯНЦОВА. — Вырасла на Прыпяці, да гэтага часу помню заліўныя лугі, наш царкоўны хор. Вельмі люблю спяваць. Калі мне бывае цяжка, я кажу: я Брэст, я Брэст, я вытрымаю, а калі лягчэй — я проста спяваю. У 1941 годзе пайшла ў партызаны. Пасля баявой аперацыі пад Мазыром ваявала ў малдаўскім злучэнні. У 1946 годзе была накіравана працаваць у Рыгу. Там скончыла універсітэт на "выдатна". Адзіны экзамен, ад якога мяне вызвалілі, нямецкая мова. Я проста не магла яе чуць, мяне трэсла ад яе. А потым кантузія дала знаць аб сабе: пачалі аднімацца ногі. Прыйшлося пераехаць у Кішынёў, да цяпла. Муж — лётчык-штурмавік, камандзір экіпажа, з ім мы пазнаёміліся на вайне. Выгадавалі двух сыноў".

Цяпер С. Зелянцовай 80, але яна спявае ў хоры ветэранаў, з'яўляецца членам ваенна-навуковага таварыства, выдатны лектар.

Васіль СВІРЫД прыехаў з Вінніцы. Ваяваць пачаў з 17 гадоў, прайшоў з баямі да Прагі.

Іван СЦЕПАНКОЎ жыве зараз у Бендэрах. 9 мая яму споўнілася 75 гадоў. На вайне быў снайперам.

"Вызваляючы Беларусь, я бачыў жудасныя карціны, — расказвае ён, — спаленыя датла вёскі, павешаных жыхароў з плакатамі на грудзях: "Партызан", "Камуніст", "Бандыт", па 10—20 чалавек у вёсцы. Я помсціў за гэта, стараўся ніводнага патрона не траціць дарэмна. Дзень Перамогі сустрэў на Эльбе. І ніколі не марыў нават, што на свой юбілей траплю ў Мінск".

Якаў ПАСЕЧНІК — сувязіст, вызваляў Мінск, удзельнічаў у размініраванні Дома ўрада. Цяпер жыве ў Ціраспалі.

Зоя КОЧКІНА з Яраслаўля. З 1942 года ваявала ў зенітна-артылерыйскім палку супрацьпаветранай абароны наводчыцай. "З фронтам мы праходзілі праз Беларусь,— са слязамі ўспамінае Зоя Міхайлаўна, — наўкол усё разбурана, бачны адны толькі трубы, з зямлянак выходзяць босыя, галодныя дзеткі. Усё гэта выклікала такі боль за беларускіх людзей, і было толькі адно жаданне — адпомсціць фашыстам. А цяпер я бачу прыгожа адбудаваны велічны горад, горды, гасцінны, і маё сэрца перапоўнена радасцю за беларусаў".

Таццяна ШУЛЬГА ў 1941 годзе скончыла першы курс Магілёўскага педінстытута. Адразу ж пачала працаваць санітаркай у шпіталі для раненых, а калі яго эвакуіравалі і немцы занялі горад, выратавала многа палонных салдат, якіх потым перапраўляла да партызан. Вытрымала страшныя катаванні ў гестапа, цудам засталася жывая. Калі падышла Чырвоная Армія, накіравалася з яе часцямі на захад. Дайшла да Берліна. Пасля вайны працавала разам з Пятром Машэравым, а калі мужа накіравалі працаваць у Малдавію, выкладала рускую літаратуру ў адной з сярэдніх школ горада Кішынёва.

Аб ваенных гадах кожнага з ветэранаў можна напісаць многа. Але яны не лічаць сябе героямі, хаця ў кожнага шмат узнагарод. Пасля вайны лёс раскідаў іх па свету, але, дзе б яны ні жылі, іх, як і ўсіх беларусаў, паважаюць за розум, працавітасць, памяркоўнасць. Сярод нашых гасцей былі былыя настаўнікі, навукоўцы, дырэктары вялікіх заводаў, палкоўнікі, генералы. Цяпер усе яны на пенсіі, але без справы ніхто не сядзіць, амаль усе займаюцца грамадскай дзейнасцю. Іх аптымізму і бадзёрасці можна пазайздросціць.

Нашы госці паглядзелі не толькі Мінск, яны пабывалі ў Хатыні, спартыўным комплексе "Раўбічы", на Кургане славы, наведалі Ваенную акадэмію. Асобае ўражанне ў іх ад святочнага парада.

Ветэраны засталіся ў захапленні ад Мінска, ад сваіх землякоў.

"...Мы вельмі рады, што Беларусь нас не забыла, што пабывалі на сваёй Бацькаўшчыне", — так выказваліся госці пры ад'ездзе.

**Ніна ПЕТУХОВА.**

## МЯСЦОВЫ "КУЛІБІН"



БелТА.

Мясцовым "Кулібіным" завуць у вёсцы Ганчары Свіслацкага раёна Анатоля ДАНІЛЬЧЫКА (на здымку). Трэба было малоць збожжа пасля вайны — ён зрабіў млынавыя жорны для дому, спатрэбіўся раздатчык кармоў на ферму — прыдумаў, змайстраваў і ўстанавіў, і працуе той раздатчык без паломак да гэтай пары.

А ў мінулым годзе Анатоль Міхайлавіч купіў старэнькі саракагадовы трактар ДТ-20, на якім апрацоўваў буракі ў мясцовай гаспадарцы. І зараз рыхтуе машыну для працы ў полі. Упэўнены, што трактар яшчэ паслужыць і яму, і суседзям пры апрацоўцы прысядзібных участкаў.

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

### ЛАТВІЯ

Шаноўныя жанчыны!

Маем жаданне сябраваць, супрацоўнічаць, сустракацца.

Ад імя таварыства дзелавых жанчын "Алівія" горада Даўгаўпілса

**Таццяна БУЧЭЛЬ,**
**старшыня**
**культурна-асветніцкага**
**таварыства**
**беларусаў**
**"Уздым".**

## АСПЕКТ ПРАБЛЕМЫ



# «У ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ КОЖНАЕ СЛОВА ПАВІННА БЫЦЬ УЗВАЖАНЫМ»

***Працяг гутаркі з галоўным рэдактарам выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя" Генадзем ПАШКОВЫМ***

— Мы пайшлі па больш цярністаму шляху — ад старажытнасці да нашых дзён, што нараджае шмат складанасцей. Прывяду такі прыклад. Ідзе невялічкі артыкул — чацвёртая-пятая частка старонкі — "Перабудова" — маецца на ўвазе перыяд на пачатку 90-х гадоў, калі і дзяржава, і многія з нас атрымалі немалыя ўзрушэнні. Але для кагосьці "перабудова" — надзвычай вялікая справа, пачатак дэмакратызацыі і гэтак далей. Для іншых — перыяд поўнага краху. І адных можна зразумець, і другіх. Але энцыклапедыя не можа прымаць ніводзін бок. Яна павінна адысці ад палітычных ацэнак і падаць сам факт. Я назваў невялікі па аб'ёму артыкул. А на яго было 17 навуковых экспертыз. І тут таксама здарaліся дыяметральна супрацьлеглыя ацэнкі.

**— Ці дапускаюцца ў энцыклапедычных артыкулах якія-небудзь ацэначныя моманты?**

— Так. Але, калі нешта ўжо ўсталявалася, атрымала сталае вызначэнне.

У спрэчных момантах імкнёмся адлюстраваць усе асноўныя пункты погляду. Напрыклад, наконт Курапат. Мы падалі артыкул "Курапаты" ў адпаведнасці з наяўнымі фактамі, якія сведчаць: так, там пахаваны ахвяры сталінскіх рэпрэсій, але ёсць і іншыя ахвяры. Мы ў выдавецтве не суддзі. Таму часам я гавару, калі ўзяць вайсковую тэрміналогію: існуюць розныя флангі — левы і правы. А паміж імі нейтральная паласа, праз якую звычайна прабіраюцца ўначы і паўзком. Але наша задача ісці па гэтай нейтральнай паласе — паласе ісціны днём, пры поўным святле, і каб за намі рушылі і "левыя", і "правыя".

Калі вярнуцца да асаблівасцей новага выдання універсальнай энцыклапедыі, спецыяльна для вашых чытачоў адзначу: у адрозненне ад першай энцыклапедыі, зараз мы шырока падаём дзейнасць нашай беларускай дыяспары як у краінах блізкага, так і далёкага замежжа. Даюцца звесткі і пра нацыянальныя суполкі, якія там працуюць, многія найбольш значныя персаналіі нацыянальнага руху на эміграцыі. І, дарэчы, цяпер мы працуем разам з нашым вядомым навукоўцам, даследчыкам Адамам Мальдзісам над кнігай "Беларускае замежжа", дзе гэтаксама, мяркуем, будзе шырока прадстаўлена дыяспара, у тым ліку пададзены біяграфічныя звесткі пра найбольш значных людзей, якія шмат робяць для развіцця беларускай культуры, прапаганды Беларусі.

**— Якія яшчэ навінкі рыхтуюцца ў выдавецтве?**

— Працуем над "Беларускай тэатральнай энцыклапедыяй", "Беларускай энцыклапедыяй гумару", "Энцыклапедычным сацыялагічным слоўнікам", "Беларускай энцыклапедыяй фізкультуры і спорту", "Беларускім ваенным энцыклапедычным слоўнікам". Дыяпазон нашых выданняў шырокі. Напрыклад, выйшла ілюстраваная храналогія гісторыі Беларусі ў двух тамах. Гэта выданне для вельмі шырокага ўжытку. Яно вельмі падабаецца моладзі: багата разнастайных ілюстрацый, а інфармацыя падаецца вельмі сцісла і канкрэтна. Таксама цікавай атрымалася гістарычная кніга Уладзіміра Бутрамеева для дзяцей — "Вялікія і славутыя людзі беларускай зямлі".

**— Генадзь Пятровіч, калі пайшла гаворка пра гістарычную літаратуру, нельга не згадаць гісторыка-дакументальную серыю хронікі "Памяць" — па сутнасці, энцыклапедычны даведнік па кожнаму раёну. Які яе лёс?**

— Выходзіць, толькі зараз да працы, акрамя нашага, далучыліся і іншыя дзяржаўныя выдавецтвы. А распачынала ўсё, распрацоўвала канцэпцыю, метадычныя падыходы менавіта выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя". Калі быў яшчэ маладым журналістам, мне пашчасціла паўдзельнічаць у падрыхтоўцы самай першай кнігі "Памяць" — па Шумілінскім раёне. Мы тады яшчэ слаба разумелі, што павінна ўяўляць сабой гэтая кніга, якой быць. І проста групу гісторыкаў, пісьменнікаў, журналістаў — своеасаблівы дэсант закінулі ў Шумілінскі раён: па тагачасных звестках, менавіта там падчас Вялікай Айчыннай вайны больш за ўсё загінула мірнага насельніцтва. З тае пары прайшло нямала гадоў, ужо набыты вялізны вопыт па выпуску гэтай хронікі. Калі ў тых, першых, кніжках даваліся ў асноўным звесткі, звязаныя з падзеямі апошняй вайны, то цяперашнія выпускі больш аб'ёмныя і шырокія, падаецца інфармацыя ад старажытнасці да цяперашніх дзён, змяшчаюцца спісы не толькі ахвяр другой сусветнай вайны, але таксама імёны незаслужана рэпрэсіраваных у 30-я—50-я гады. Словам, кожны раён атрымлівае сваю кнігу, сваю гісторыю, сваю мясцовую энцыклапедыю.

**Гутарыць Галіна УЛІЦЁНАК.**

Працяг. Пачатак у № 21.



ФЕСТЫВАЛІ

# ПРЫВІД НЯСВІЖСКАГА ЗАМКА

● Віктар ЯГОРЧАНКА.

**По выніках рэспубліканскага агляду-конкурсу тэатральнага сезона лепшым прызнаны спектакль Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драмтэатра імя Якуба Коласа "Чорная нявеста" па матывах п'есы А. Дударава "Чорная панна Нясвіжа". 12 мая гэтым спектаклем адкрыўся тэатральны фестываль "Славянскія тэатральныя сустрэчы ў Гомелі". Спектакль таксама прызнаны лепшым на фестывалі і выклікаў вялікую цікавасць у гледачоў.**

Зварот навукоўцаў альбо дзеячаў мастацтва да цёмных старонак нашай гісторыі часта разбурае пэўныя стэрэатыпы мыслення, прымушае не толькі ясней углядацца ў мінулае, але і больш глыбока асэнсоўваць сённяшні дзень. Вось і "Чорная панна Нясвіжа" (у тэатры імя Я. Коласа ідзе пад назвай "Чорная нявеста") Аляксея Дударава, здавалася б, прыгожая легенда з элементамі містыкі пра цудоўнае чалавечае пачуццё, якое ўслаўлялі яшчэ Шэкспір і Петрарка. Але п'еса мае глыбінны сацыяльна-філасофскі падтэкст, бо ставіць вельмі актуальную праблему суадносін асобы і дзяржавы. Аўтар задаецца досыць спрэчным пытаннем: што першаснае? Ці магчыма здрадзіць сабе, свайму каханню, сваёй бессмяротнай душы, якая даравана Богам, дзеля зменлівых ідэалаў дзяржаўнасці, дабрабыту, роду, нацыі?

А ўсё закручваецца вакол таемнай гістарычнай асобы Вялікага княства Літоўскага Барбары з магнацкага роду Радзівілаў. Яе першае спатканне з каралевічам Жыгімонтам мела фатальныя наступствы, бо ператварылася ва ўзаемнае палкае пачуццё. Закаханыя пабраліся тайным шлюбам. У княстве вестцы гэтай узрадаваліся, бо ў шлюбе нашчадка польскай кароны з ліцвінкай бачылі залог умацавання дзяржавы. Зусім іншыя пачуцці выклікала навіна ў Польшчы...

Драматург Аляксей Дудараў не адступае ад гістарычнай праўды. Разам з тым ён крыху ідэалізуе галоўных герояў у адпаведнасці з рамантычна-ўзнёслым стылем сваёй драматычнай паэмы. Да "Чорнай панны Нясвіжа" звярнуўся галоўны рэжысёр тэатра імя Якуба Коласа Віталь Баркоўскі, чыю творчасць можна смела аднесці да напрамку так званай "аўтарскай" рэжысуры. Ідэя п'есы, часцей за ўсё арганічна пераўвасобленая ў мастацкую канцэпцыю спектакля, пульсуе ледзь прыкметна. Для рэжысёра больш істотная вобразна-асацыятыўная тканіна спектакля. Кажучы інакш, важней не "што", а «як». Баркоўскага і яго творчую групу адчувальна прывабіў містыцызм п'есы і яе амаль дэтэктыўная інтрыга. Яшчэ адной характэрнай асаблівасцю стылю Баркоўскага з'яўляецца яго ўменне стварыць сцэнічную атмасферу, адпаведную задуме. Прастора "Чорнай нявесты" густа населена прывіднымі, містычнымі персанажамі. Канфлікт п'есы значна пашыраецца, бо яе героі ўступаюць ва ўзаемадачыненні не толькі між сабой, але і з Сусветам, з Космасам (а гэта, дарэчы, лейтматыў большасці спектакляў Баркоўскага). Вялікае месца ў агульнай партытуры спектакля займае пластыка. Разам з гэтым вонкавы малюнак большасці персанажаў зусім не супярэчыць унутраным перажыванням, псіхалагічнай распрацоўцы характараў. Асабліва гэта датычыць выканаўцаў галоўных ролей — маладых артыстаў Алены Шарэпчанкі (Барбара) і Святаслава Астрамовіча (Жыгімонт).





НА ЗДЫМКАХ: гучыць беларус-
ая народная песня; на "Траецкім
ірмашы"; асацыяцыя беларускіх
арэйцаў знаёміць з нацыянальнай
ухняй; упрыгажэнні на любы густ.

Фота БелТА.

ГАСЦЁЎНЯ

# Валерый ДАЙНЕКА: «ЖАДАЮ, КАБ БЫЛО БОЛЬШ ЗАМОЖНЫХ ЛЮДЗЕЙ...»



*Пра беларускую эстраду шмат пішуць і гавораць. Беларуская папулярная музыка сёння аб'ядноўвае традыцыі і наватарства, нацыянальны каларыт і модныя павевы. Спецыялісты складаюць рэйтынгі папулярнасці артыстаў, падлічваюць колькасныя паказчыкі ад продажу гуказапісаў і відэакасет. Сярод тых, хто знаходзіцца ў полі ўсеагульнай увагі, Валерый Дайнека.*

*Прадстаўляць яго імя ў Беларусі няма патрэбы. Творчасць Валерыя асацыіруецца у першую чаргу з легендарным ансамблем "Песняры", які шмат гадоў быў сімвалам беларускай культуры, нацыянальнай песні. А ў апошні час — з гуртам "Беларускія песняры".*

*Сустрэча з Валерыем Дайнекам задумвалася даўно і падагравалася цікавасцю знаёмства з цёзкам па прозвішчу. У гэтым заключалася журналісцкая ўдача. З гэтага, уласна кажучы, і пачалася наша размова. Хоць, на жаль, нічога агульнага паміж вядомымі нам прадстаўнікамі прозвішча Дайнека, сярод якіх беларускі пісьменнік Леанід Дайнека, расійскі спартсмен-баскетбаліст (і поўны цёзка) Валерый Дайнека, знайсці не давялося. Але гэтыя абставіны паспрыялі таму, каб гутарка са спеваком Валерыем Дайнекам атрымалася простай і шчырай: ён амаль па-свяцку расказваў пра сябе, пра свае праблемы і мары.*

**— Валерый, дык усё ж адкуль вашы карані?**

— Радзіма мая тут, у Беларусі. Маці — з Беразіно, бацька — са Слабады, што каля Беразіно Мінскай вобласці. Для мяне гэта найпрыгажэйшыя мясціны ў свеце. З дзяцінства закаханы ў амаль не кранутую прыроду. Летам з бацькам і братам мы часта выязджалі на рэчку Бярэзіну. Жылі ў палатках на адным з яе берагоў. Зараз, як толькі з'яўляецца вольны час, імкнуся туды.

Творчая кар'ера таксама родам з дзяцінства. Спачатку была музычная школа. Бацька — прафесійны музыкант, маці — з музыкальнымі здольнасцямі ад Бога, вырашылі, што я павінен іграць на скрыпцы. Брат да таго часу ўжо асвоіў фартэпіяна. Я ўдзячны бацькам за такі выбар, бо скрыпка — складаны інструмент, асабліва развівае і абвастрае слых. У далейшым усё гэта мне вельмі дапамагло, але тады, як і ўсе хлапчукі, я не быў у захапленні ад урокаў.

У старшых класах мы з братам сталі захапляцца джазам, рок-музыкай, гадзінамі праседжвалі каля радыёпрыёмніка. Гэта быў час "Beatles", калі на кароткіх хвалях ішла перадача "Гадзіна джаза" для паўночнікаў. Музыка захапіла нас усур'ёз. І калі спачатку яна нам здавалася чымсьці новым і незразумелым, то паступова мы ўжо маглі адрозніваць "Beatles", "Animals", "Monkeys" і гэтак далей. У нашых прыхільнасцях джаз і рок засланялі класічную музыку, якую мы вывучалі ў школе. Слухаючы папулярныя мелодыі, мы пастаянна параўноўвалі айчынную эстраду з замежнай, захапляліся творамі, якія былі прызнаны значна пазней.

Сур'ёзнае захапленне поп-музыкай і джазам у школьны перыяд вылілася ў арганізацыю рок-групы "Менестрэлі", якая базіравалася ў Доме культуры будаўнічага камбіната № 1 у Мінску. Тады ў політэхнічным інстытуце ўжо грымелі "Зодчие" — куміры беларускай моладзі 70-х. Наш рэпертуар у асноўным складаўся з англамоўных песень, але былі свае, аўтарскія. Вось такі пачатак шляху.

**— Ці цяжка быць папулярным сёння?**

— Думаю, і лёгка, і цяжка. Сучасная эстрада — пацвярджэнне таму. Лёгка, калі прысутнічае ўсё, што патрэбна для поспеху: голас, талент, знешнасць, уменне рухацца, калі ёсць уплывовыя і платежаздольныя сваякі, сябры ці знаёмыя. Прычым, апошняя акалічнасць можа быць пастаўлена на першае месца і быць адзінай. Плаціць у шоу-бізнесе трэба за ўсё. Гэта называецца "раскруткай" артыста.

Калі ёсць талент, але няма грошай ці яркай знешнасці, якая з'яўляецца ўмовай для паспяховай раскруткі,— гэта складана. Крыўдна, калі практыкай пацвярджаецца сэнс крылатага выразу: "Талентам трэба дапамагаць, бяздарнасці праб'юцца самі".

**— Што, на ваш погляд, з'яўляецца крытэрыем выканальніцкага майстэрства?**

— Найперш за ўсё індывідуальнасць. Затым — здольнасці чалавека. Гэта тычыцца любой дзейнасці. Калі пісаць карціны і імітаваць Пабло Пікасо ці Сальвадора Далі, гэта ўжо нецікава. У свеце ёсць толькі адзін Том Джонс, адны "Beatles", адзін Сціў Уандэр. Так пра іх трэба ведаць, выкарыстоўваць іх творчасць у прафесійнай адукацыі. Але не імітаваць іх. Напрыклад, мне не падабаецца, як спявае Мік Джагер, але калі ён у час сваіх выступленняў "заводзіць" мільёны людзей, зачароўвае публіку сваім выкананнем, то гэта многа значыць.

**— Вы ведзяце актыўную творчую дзейнасць, вас можна ўбачыць на розных канцэртных пляцоўках. Якая геаграфія вашых выступленняў?**

— Як ні банальна гэта гучыць, імкнуся выступаць перш за ўсё там, дзе я патрэбны, дзе мяне чакаюць. Не мае значэння, горад гэта ці вёска. Шчырасць і добразычлівасць публікі не залежаць ад месца жыхарства. Будзе няпраўдай, калі не скажу, што ўсе артысты імкнуцца на вялікія пляцоўкі, дзе збіраецца інтэлігентная публіка і дзе на тваіх канцэртах не п'юць піва. Аднак даводзіцца працаваць усюды: начныя клубы, рэстараны, бары. Галоўнае, каб зносіны паміж музыкантамі і слухачамі былі дастойнымі і праца эстрадных выканаўцаў успрымалася не толькі як забава для публікі, але і як творчая дзейнасць.

**— Вы многа бачылі, аб'ездзілі шмат краін, калі гастраліравалі з "Песнярамі". Пра што марыць Валерый Дайнека сёння?**

— Мару наведаць свайго сябра ў Англіі. Лічу, што гэта магчыма ажыццявіць. Хацеў бы пабываць у тых краінах і на тых кантынентах, дзе яшчэ не быў: Францыя, Англія, Аўстралія... На Зямлі столькі цудоўных мясцін! Я люблю вандраваць.

Мару, каб мой народ калі-небудзь мог уздыхнуць поўнымі грудзьмі, мець свабоду выбару і ў прафесійнай дзейнасці, і ў правядзенні адпачынку. Зараз, на жаль, не ўсе могуць дазволіць сабе раскошу такога выбару, праяўлення сваіх здольнасцей і магчымасцей. Мы павінны памятаць, што ад людзей, якія вакол нас, залежыць душэўны стан кожнага з нас. Калі мы багатыя і на нашых тварах усмешкі, ствараецца атмасфера адкрытасці і дабра, здольная змяніць чалавека. Я жадаю, каб у нашай краіне было больш багатых людзей.

**— Ці было калі-небудзь жаданне пакінуць краіну?**

— Не. Не збіраюся крычаць, што я — патрыёт, але ніколі не разумеў людзей, што выехалі. Зараз яны адарваныя, як ад жывога арганізма, ад сваёй Радзімы, якая працягвае жыць. Ніякай карысці ад такога разрыву няма нікому.

**— Валерый, што (зразумела, акрамя музыкі) вас займае?**

— Кнігі, жывапіс. Літаратура — неад'емная частка майго жыцця. У асноўным, сумяшчаю чытанне з праслухоўваннем новых CD. Можна сказаць, што ў маім жыцці музыка гучыць пастаянна. Гэта любімая справа і абавязковы атрыбут адпачынку.

Спорт на аматарскім узроўні таксама займае вялікае месца. У дзяцінстве гуляў у футбол, баскетбол, валейбол. Калі бывае магчымасць, удзельнічаю ў трэніроўках футбольнай каманды артыстаў Мінска. У нас ёсць традыцыйныя матчы, якія праводзяцца восенню, 30 кастрычніка. Звычайна такія матчы заканчваюцца канцэртамі. Для падтрымання формы і захавання здароўя тры разы на тыдзень наведваю фітнес-клуб "Багіра" Наталлі Наважылавай, што на плошчы Перамогі ў цэнтры Мінска. Займаюся атлетычнай гімнастыкай. Гэта надае мне сілы, павышае настрой.

**— Вашы пажаданні чытачам "Голасу Радзімы".**

— Усім беларусам, якія жывуць за межамі краіны, я жадаю не забываць беларускую мову, памятаць свой край, шанаваць продкаў. Трэба сустракацца, сябраваць. Мы, са свайго боку, гатовы ўмацоўваць узаемныя сувязі.

**Гутарыла
Вольга ДАЙНЕКА.**

# А Ў СЯННО

ым Вялі-
. З 1772
е Расій-
З-га —
авінцыі,
ад Магі-
19 года
скай гу-
раённы
бласці.
вялікага
, адбіва-
дзяржа-
ным му-
анжавая
наўскай
аў 1812
ць пра
Айчын-

гваецца
тран-
ажытна-
ная пло-
ціліся 82
цёльная
цца рэд-
л. Ён лі-
сталага
еларусі,

другой
ішла
амятнай
берні за
я вуліцы
щённые,
ми обса-

живать деревьями". Але на пачатку XX стагоддзя на галоўных вуліцах горада быў пакладзены брук, з'явіліся драўляныя тратуары і газавыя ліхтарыкі на слупах.

Ля будынка сучаснай гасцініцы калісьці быў гарадскі сад, у якім два разы на тыдзень іграў аркестр, спявалі аматары музыкі. А над садам блішчэлі купалы праваслаўнага Мікалаеўскага сабора, узведзенага яшчэ ў 1867 годзе. У 1934 годзе сабор быў разабраны па цаглінках, з якіх збудавалі Дом культуры.

Сёння ў Сянно беражліва захоўваюцца і адраджаюцца добрыя традыцыі — праводзяцца святы песні, Купалле, Каляды, Гуканне вясны. У цэнтры горада знаходзяцца Дом культуры, дзіцячая мастацкая школа, краязнаўчы музей, Дом рамёстваў, новы будынак райвыканкама...

Тут працуюць завод сухога абястлушчанага малака, два льнозаводы, мэблевая фабрыка. Унікальныя матэрыялы — дакументы, успаміны, карты, малюнкі, фотаздымкі, археалагічныя знаходкі знайшлі сваё месца ў экспазіцыі краязнаўчага музея.

**Віктар ЖЫБРЫК.**

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ: МАЛДОВА

**АД РЭДАКЦЫІ. Знаёмства з беларусамі Малдовы адкрывае супольнасць шчырых, цікавых людзей. Думаецца, чытачы газеты звярнулі ўвагу на публікацыі пра беларускага мастака з Кішынёва Вячаслава Ігнаценку. І вось новае творчае знаёмства. Супольнікі беларускай абшчыны ў Малдове маюць сваё літаратурнае аб'яднанне. Вершы — не прафесійная справа нашых суродзічаў, хутчэй, магчымасць выказаць пачуцці, тугу па Беларусі, дакрануцца да роднага слова.**

**Сёння запрашаем чытачоў да знаёмства з літаратурнымі спробамі некаторых малдаўскіх беларусаў.**

**Раман КАШУТКІН, ветэран Вялікай Айчыннай вайны. Нарадзіўся ў Сібіры ў сям'і беларусаў з Гродзеншчыны. Лічыць сябе сапраўдным беларусам, хоць у сілу абставін не жыў на Беларусі.**

**Актыўны ўдзельнік Беларускай грамады ў Малдове і літаратурнага гуртка, член Саюза журналістаў Малдовы. Напісаў верш, які стаў гімнам абшчыны.**

Раман КАШУТКІН

### БЕЛАРУСЫ ЕДУЦЬ...

Дзень добры, Рэчыца!
Дзень добры, май!
З днём Перамогі нас вітаюць.
У Кішынёў на фестываль
Беларусы прыязджаюць.

Едуць цераз Украіну,
З імі — свежы вецер,
Песні, добрыя навіны —
Лепшыя на свеце.

Мы надзенем рукзакі,
Выйдзем на прасторы,
Дзе сустрэлі гайдукі
Рэчыцу ў Малдове.

Гэта ж хлопцы-партызаны
Да Малдовы з дружбаю...
Хай не вянуць тут цюльпаны
І гваздзікі з ружамі!

Там, наўкол нашай хаты,
Бэз пахучы расце.
Ветрык чысты, духмяны
Шчасце ў сэрца нясе.

Гэта наша краіна,
Родны кут дарагі.
Я цябе не забыла,
Буду помніць заўжды.

**Вера БЯЛЯЕВА-СУГАК родам з Баранавіч. Яшчэ ў школьныя гады складала вершы і нават удзельнічала ў Сочынскім фестывалі творчай моладзі ў 1970 годзе. Там на адзін з яе вершаў была напісана музыка. Актыўна ўдзельнічае ў літаратурным гуртку, шмат яе вершаў надрукавана ў зборніках "Родны кут", "Беларуская душа" і альманаху "Ларец".**

**Творы Веры Сугак прасякнуты сумам па радзіме і пачуццём маці, якая перажывае за лёс сваіх дзяцей.**

Вера БЯЛЯЕВА-СУГАК

### ШПАКІ

Над роднай хатай, над прыгоркам
Ляцяць шпакі, а мы з Рыгоркам
Спяшым хутчэй іх сустракаць.
Рыгор крычыць: "Шпакі ляцяць!"
Яны кружацца па-над вёскай,
Над пералескамі з бярозкай.
Рыгорка верыць надта ў шчасце,
Але нягожа хваляваецца,
Бо сёння вельмі дзень прыгожы.
Шпакі ляцяць, яны ў дарозе.

### УСПАМІНЫ

Мая родная вёска,
Нашы мары і сны.
Я цябе не забыла,
З першай помню вясны.

**У Рыгора СТАЯНАВА маці — беларуска, бацька — балгарын. Жыў і вучыўся ў Адэсе, а потым доўга працаваў на Беларусі. З матчыным малаком увабраў у сябе цягу да беларускай зямлі. Яго вершы прасякнуты філасофскім роздумам, глыбока эмацыянальныя. Друкаваўся ў зборніках "Родны кут", "Беларуская душа" і альманахах "Ларец".**

Георгій СТАЯНАЎ

### БЕЗДУШИЕ

Два серых комочка летели вдали.
Два серых комочка у
самой земли.
Два серых комочка — живых
существа.
Два серых комочка,
заметных едва.

Два серых охотника с серой душой
Дремали под деревом
жаркой порой,
Не зная, что делать и как дальше
быть,
Как скучное время скорее убить.

— Гляди, — вдруг, очнувшись,
один говорит, —
Вдали над дорогою что-то летит.
Давай заряжай да целься точней,
Возможно, и будет наш первый
трофей.

Они зачинили, когда им стрелять,
Кого и по скольку дают
истреблять.
Но кто и когда им сказал, что
нельзя
Известного всем убивать воробья!

Он серый, обычный, никем не
пригрет.
Летает и прыгает тысячи лет.
Их в Красную книгу никто не занёс.
И "нужен — не нужен" не ставят
вопрос.

По этой причине ружье поднялось.
Протяжное эхо в поля унеслось.
Два серых охотника с черной
душой,
Беспечно смеясь, зашагали
домой.

Два серых комочка лежали вдали
На пыльной дороге цветущей
земли.
И солнце светило, сверкала
трава...
Но мир был беднее на два
существа.

**Любоў ЧАВУСАВА, настаўніца беларускай мовы. Як жонка афіцэра, была вымушана шмат разоў змяніць месца пражывання. Цяпер атабарылася ў Кішынёве, актыўна ўдзельнічае ў жыцці беларускай абшчыны. У вершах часта вяртаецца да малых гадоў, праведзеных на радзіме.**

Любоў ЧАВУСАВА

### БЛАКІТНЫ ВАСІЛЁК

Я спынюся ля дарогі,
Пастаяць ускрай мяжы...
Васілёчак адзінокі,
Ты мне родны, не чужы.

Я цябе пытаю, кветка,
Дзе блакіт такі ўзяла!
Можа ён з вачэй падлетка,
Што з суседняга сяла!

Квітнела я, як ён, калісьці,
Пра жыццё не разважала,
Не шукала я карысці
І цябе не заўважала.

Я прайшла праз леты-зімы,
Цябе бачу незнарок, —
Колер кінутай радзімы
Як пытанне, як папрок...

І прашу я выбачэння
У цябе і ў Радзімы.
Буду вечна я маліцца
За народ за свой любімы.

**Сяргей МАЙСЕЕНКА, чалавек з багатай біяграфіяй. Да нядаўняга часу займаў пасаду галоўнага геолага Малдаўскай ССР. Вершы піша на рускай мове, бо ён даўно адарваны ад Беларусі, але душою застаўся беларусам.**

Сяргей МАЙСЕЕНКА

* * *

Истина таится
В клавишах души,
Реквием наш скорбно
Славит тех мужчин,
Что в боях, как колос
Скошенный, легли
В поле безымянном,
У святых могил.
В муках долгих, тяжких
Таяли от ран.
Холмик над овражком
Им приютом дан.
Вечная надежда
Теплится у вдов,
Чистым, ярким светом
Озаряя кров,
Где крепчали дети,
Гордость матерей,
Память их о прошлом
В редких счастья днях.
Исподволь всплывает
Их былое вновь
Женскою слезинкой
В беспокойстве снов.

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ




У Мінску ў бібліятэцы Янкі Купалы прайшла прэзентацыя кнігі Уладзіміра Арлова і Генадзя Сагановіча "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі".

НА ЗДЫМКАХ: кніга У. Арлова і Г. Сагановіча "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі"; падарунак бібліятэцы Вышэйшага паліграфічнага вучылішча з аўтарскім аўтографам.

Фота БелТА.



## ДАБРАЧЫННАСЦЬ


БелТА.

## АНОНС

*У Вільні з новага году распачала вяшчаньне новая беларуская радыёстанцыя "Балтыйскія хвалі". З адным зь ейных заснавальнікаў і галоўным каардынатарам Рымантасам Плейкісам, які ў адначасьсе зьяўляецца й старастам "фракцыі памяркоўных кансэрватараў" у літоўскім сойме, гутарыў карэспандэнт "Руні" Алесь ТРУСАЎ.*

# ПРА НОВУЮ БЕЛАРУСКУЮ РАДЫЁСТАНЦЫЮ Ў ЛІТВЕ

РАСПАВЯДАЕ Рымантас ПЛЕЙКІС

**— Раскажыце трохі пра сябе...**

— Я нарадзіўся ў 1957 годзе ў Вільні. Хоць горад майго дзяцінства — Друскенікі, дзе я й закончыў сярэднюю школу. Скончыўшы катэдру журналістыкі Віленскага ўнівэрсытэту, некалькі гадоў выкладаў на той самай катэдры розныя прадметы па радыё й радыёвяшчаньні. Маё хобі таксама зьвязанае з радыё: радыёманіторынг службовых і вяшчальных радыёстанцыяў, давялося працаваць карэспандэнтам і на вяшчаньні Літоўскага радыё. З 1989 года я ўдзельнічаю ў розных праектах незалежнага недзяржаўнага радыёвяшчаньня. Самыя вядомыя праекты: "М-1" (яно й дагэтуль жыве, я там быў галоўным рэдактарам), "Радыёцэнтрас" (галоўны рэдактар), "Сьпірытус моментс" (джазавая радыёстанцыя ў Вільні) ды іншыя. Так што маё прафэсыйнае жыцьцё цалкам зьвязанае з радыёвяшчаньнем.

**— Калі зарадзілася думка аб стварэньні беларускага радыё?**

— У жніўні 1998 года нарадзіўся праект аб стварэньні радыёвяшчаньня на беларускай мове. Пасьля паўтары гады нялёгкай працы нарадзілася радыёстанцыя з паэтычнай назвай "Балтыйскія хвалі". Сутнасьць нашага праекту ў тым, што нашая радыёстанцыя — гэта аб'яднаны канал радыёвяшчаньня на беларускай мове. З пункту гледжаньня тэхнічнага й юрыдычнага "Балтыйскія хвалі" арыентуюцца перадусім на мясцовую беларускую дыяспару Літвы, якая налічвае да 60 тысяч чалавек. Гэта сур'ёзная этнічная група ў нашай краіне, якая, на мой погляд, мала ўсё-ж яшчэ мае сваіх СМІ.

**— Чым вашая радыёстанцыя адрозьніваецца ад іншых беларускіх радыёстанцыяў, такіх, як "Свабода", "Рацыя", "Палёнія"?**

— Гэтыя й іншыя беларускія перадачы як-бы канкурэнты адна аднай. Часам нават перакрывалі сеткі вяшчаньня, і вяшчаньне гэтае йшло на кароткіх хвалях, між тым як парк кароткахвалевых радыёпрыёмнікаў і ў Літве, і ў Беларусі скарачаецца. Сутнасьць-жа нашага праекту — аб'яднаны канал на сярэдніх хвалях, каторыя маюцца ва ўсіх радыёпрыёмніках, уключаючы аўтамабільныя. Мы перадаем праграму, якая складаецца зь вяшчаньня некалькіх радыёстанцыяў: "Свабода" (4 гадзіны ў суткі), "Польскае радыё" (паўгадзіны ў суткі), нашая ўласная перадача (пакуль што таксама паўгадзіны ў суткі). Дадасца яшчэ 10 хвілінаў "Літоўскага радыё", падключыцца новая радыёстанцыя зь Беластоку "Рацыя". Такім чынам, мы ўсе гэтыя перадачы на беларускай мове робім не канкурэнтамі, а калегамі, каторыя адзін аднаго дапаўняюць, не перакрываюцца ў часе і якія дасягаюць слухачоў як тут, у Літве, гэтак і ў Беларусі, на сярэдніх хвалях. Слухачы-ж на свой густ могуць выбіраць, што ім больш падабаецца.

**— Вы сказалі, што "Балтыйскія хвалі" перадусім разьлічаныя на літоўскіх беларусаў!**

— Так, мы распавядаем ім пра падзеі ў Літве, Беларусі і ва ўсім сьвеце.

**— А які будзе характар перадач з самой Вільні?**

— Гэта пытаньне хутчэй да нашага галоўнага рэдактара Сяргея Шупы. А так сёньня мы ўжо маем свае паведамленьні, культурную старонку, каляндар гістарычных падзеяў, агляды літоўскага друку з камэнтарамі. У залежнасьці ад сродкаў мы даводзем аб'ём нашае праграмы да 1—2-гадзінаў у суткі. Увогуле, да канца гэтага году мы плянуем давесьці радыёвяшчаньне на нашым канале да 12 гадзінаў у суткі.

**— Ці сымпатызуеце вы ў сваіх перадачах нейкім палітычным партыям у Літве ці ў Беларусі! Напрыклад, агляды Яна Лаўрыновіча літоўскай прэсы робіцца з пункту гледжаньня партыі кансэрватараў, да якой належыце й Вы...**

— Пакуль яшчэ ня быў да канца рэалізаваны наш праект, беларускія ўлады імкнуліся даказаць, што мы будзем разбураць дабрасуседзкія адносіны паміж нашымі краінамі. Былі нават вельмі крытычныя выказваньні ў адрас "Балтыйскіх хваляў" прэзыдэнта Лукашэнкі й іншых дзеячаў, уключаючы беларускага амбасадара ў Літве. У сапраўднасьці, усё наадварот: калі беларусы, што праўжываюць у Літве (а таксама і ў Беларусі), будуць мець яшчэ адзін, альтэрнатыўны, канал, чым больш яны імфармацыі будуць атрымоўваць аб палітычным і сацыяльна-эканамічным становішчы ў нашых краінах, — тым лепшыя будуць і дачыненьні паміж нашымі народамі... Я падкрэсьліваю, што праект нашага радыё рабіўся без аніякай падтрымкі якіх-бы там не было палітычных структураў Літвы. Ён ажыцьцяўляецца пры фінансавым садзеяньні розных фондаў у падтрымку дэмакратыі й свабоды слова. Наадварот, літоўскія ўлады, як у Сойме, гэтак і ў МЗС, і ў Прэзыдэнтуры, летась аказвалі



Ужо дзесяць гадоў японскі фонд "Чарнобыль" аказвае дабрачынную дапамогу жыхарам тых раёнаў Гомельскай вобласці, што пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС. Нядаўна ў Гомелі пабываў прэзідэнт фонду Мінору Камата, які прывёз для абласной клінічнай бальніцы дыягнастычнае абсталяванне на 1,5 мільёна долараў.

НА ЗДЫМКУ: старшыня Гомельскага аблвыканкама Мікалай ВАЙЦЯНКОЎ уручае пісьмо з падзякай Мінору КАМАТА.

даволі-такі вялікі ўціск, каб прыпыніць наш праект. Мы, дарэчы, ліцэнзію на радыёвяшчаньне атрымалі толькі з другога заходу. Так што праект наш не дзяржаўны, нашая радыёстанцыя ёсць прыватная, створаная васьмю асобамі: чацьвёра літоўскіх і чацьвёра беларусіх грамадзянаў.

**— Такім чынам, у сваіх перадачах вы імкнецеся быць палітычна нятральнымі!**

— Так. Хаця былі спробы пэўных палітычных дзеячоў зь беларускай апазыцыі, якія хацелі-б быць вялікімі нашымі сябрамі, неяк паўплываць на зьмест перадачаў, на кола нашых аўтараў, дзеля таго, каб абараняць свае партыйныя ды ідэалягічныя інтарэсы. Тут ужо былі пэўныя напружаньні. Аднак мы разумеем, што сама беларуская апазыцыя даволі раздробленая, і было-б проста глупствам абараняць толькі адзін ейны накірунак. На нашым канапе павінныя выказвацца людзі самых разнастайных сьветапоглядаў. Мажліва, для паўнаты карціны (тут мы яшчэ ня вызначыліся) мы дамо на сваём канале й паўгадзіны Мінскага радыё, каб наш слухач мог-бы ва ўсім спэктры мець і пункт гледжаньня афіцыйных уладаў Беларусі, вучыўся аналізаваць падзеі.

**— Ці не хацелі-б вы бліжэй пазнаёміцца з кіраўнікамі й сябрамі беларускіх суполак Літвы! Нашая арганізацыя, Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў "Дэмакратыя для Беларусі", парупілася-б, каб арганізаваць дзеля гэтага круглы стол...**

— З задавальненьнем. Я, як каардынатар праекту, лічу, што такія сустрэчы неабходныя. Аднак рабіць такую сустрэчу мэтазгодна тады, калі нашая мяйсцовая перадача будзе ўжо мець ня менш гадзіны эфірнага часу, г. зн. крыху пазьней.

**— Апошняе. Што Вы думаеце пра сытуацыю ў Беларусі!**

— Сытуацыя сумная. Апошнія жорсткія паводзіны беларускіх уладаў з удзельнікамі Марша свабоды паказваюць, што наўрад ці афіцыйны Мінск будзе шукаць кампрамісаў, наўрад ці магчымы сапраўдны свабодны дыялёг уладаў з апазыцыяй... Але што можам зрабіць мы? Ніхто ня вырашыць лёс Беларусі, калі гэтага ня зробяць самі беларусы. Мы толькі можам нейкім чынам спрыяць дэмакратычным пераўтварэньням у суседняй з намі краіне. І адзін з мэтадаў — лепшае інфармаваньне, што мы й робім у рамках нашага праекту.

**"Рунь"**
*(газета беларусаў Літвы).*

## ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

Леанід Маракоў

ВЫНІШЧЭННЕ

*Напярэдадні выхаду "Энцыклапедыі рэпрэсіраваных беларускіх літаратараў", над якой некалькі апошніх гадоў працуе журналіст і даследчык Леанід Маракоў, пабачыў свет адпаведны даведнік, падрыхтаваны гэтым аўтарам. У даведніку ўпершыню прыводзяцца звесткі пра літаратараў Беларусі, якіх рэпрэсіравалі ўлады царскай Расіі і савецкай дзяржавы, польскія, нямецкія і іншыя рэжымы. Сёння з дазволу аўтара мы змяшчаем уступ да "Спісу рэпрэсіраваных беларускіх літаратараў" з некаторымі скарачэннямі.*

# ПЯЦЬ ХВАЛЬ ВЫНІШЧЭННЯ

"Рэпрэсіраваны"... Знайшлі ж бальшавікі слова. Не расстраляны, не загінуў на катарзе ці выжыў у ссылцы, а "рэпрэсіраваны" (з лацінскага repressor — падаўленне, карная мера).

Распрацоўка даведніка ў камп'ютэрнай праграме Microsoft Excel вялася ў трох варыянтах: па датах нараджэння, смерці і арыштаў, што дае магчымасць зрабіць наступнае абагульненне:

з 540—570 літаратараў, якія выступалі ў беларускім друку ў 20-я — 30-я гады XX стагоддзя, бальшавікі рэпрэсіравалі не менш як 440—460 (80 працэнтаў), а калі ўлічваць аўтараў, якія былі вымушаны пакінуць Бацькаўшчыну і, па сутнасці, перасталі ўдзельнічаць у літаратурным жыцці, **рэпрэсіям падвергліся не менш 500 літаратараў (90 працэнтаў).**

Улічваючы, што вядучай сілай інтэлігенцыі таго часу пераважна былі дзеячы літаратуры: паэты, празаікі, драматургі, крытыкі, журналісты, перакладчыкі, публіцысты, рэдактары, выдаўцы, вучоныя гуманітарных напрамкаў — філосафы, гісторыкі, мовазнаўцы, краязнаўцы, географы і іншыя, якія актыўна выступалі ў перыядычным друку таго часу, атрымліваем высnову: **у 30-я гады была знішчана духоўная моц, мозг нацыі, што адчуваецца апошнія шэсць дзесяцігоддзяў. А галоўныя вынікі генацыду, магчыма, яшчэ наперадзе.**

Пры складанні спісаў даведніка высвятлілася таксама наступнае: дванаццаць беларускіх літаратараў арыштоўваліся як царскімі, так і бальшавіцкімі ўладамі (гэта значыць, што бальшавікі пачыналі не на "голым месцы", а быццам прынялі эстафету ад царскага рэжыму): пісьменнік **Іван Батрак (Казлоўскі)** (1915, 193?), дзяржаўны дзеяч, публіцыст **Радзівон Бонч-Асмалоўскі** (1908(9?), 1930, 1938), пісьменнік, публіцыст і перакладчык **Дарафей Бохан** (1907, 1939), публіцыст **Аляксандр Бурбіс** (1906, 1917), палітычны дзеяч і публіцыст **Хаім Гельфанд** (1896, 1921), эканаміст **Міхаіл Гольман** (1917, 1929, 1932, 1936), гісторык **Ясей Канчар** (1906, 1938), пісьменнік, мовазнавец, палітычны дзеяч, акадэмік АН Беларусі **Язэп Лёсік** (1905, 1911, 1922, 1930, 1938), эканаміст і публіцыст **Стасіс Матулайціс** (1898, 1937), дзяржаўны дзеяч і публіцыст **Васіль Рагуля** (1906, 1928, 1939), літаратуразнавец, краязнавец і гісторык **Уладзімір Стукаліч** (1889, 1918), выдавец, публіцыст, грамадскі дзеяч, рэдактар "Нашай нівы" **Аляксандр Уласаў** (1909, 1939, 1940).

ПЕРШЫМІ бальшавікі арыштавалі (18 снежня 1917 года) **Аляксандра Бурбіса, Аляксандра Вазілу, Міхаіла Гольмана, Ігната Дварчаніна, Івана Краскоўскага, Язэпа Мамоньку.** Праз месяц былі арыштаваны публіцыст **Кастусь Езавітаў** і палітычны дзеяч **Васіль Захарка**.

ПЕРШЫМ, каго новыя ўлады расстралялі, быў літаратуразнавец, гісторык, краязнавец **Уладзімір Стукаліч** (18 кастрычніка 1918 года ў Віцебску).

ПЕРШЫ МАСАВЫ расстрэл беларускіх літаратараў адбыўся **17 траўня 1934 года**. У ноч з 17 на 18 траўня нкусаўцы расстралялі педагога, публіцыста і палітычнага дзеяча **Міхаіла Кахановіча**, загадчыка сектара газеты "Звязда" **Аляксандра Нікалаева-Астравецкага**, аспіранта БДУ, паэта **Алеся Салагуба**, навуковага супрацоўніка Камісіі Заходняй Беларусі АН БССР, публіцыста **Лявона Бабровіча**. Усяго 17 траўня 1934 года расстраляна 15 чалавек.

АПОШНІМІ літаратарамі, якіх знішчылі ў "амерыканцы", былі адзін з першых, каго бальшавікі арыштавалі (іронія лёсу), — **Кастусь Езавітаў** і публіцыст **Іван Філістовіч**.

ПЕРШЫМ у ссылцы загінуў паэт **Уладзімір Жылка** (01.03.1933). Апошнім — празаік **Барыс Мікуліч** (17.06.1954).

**ПЕРШАЯ хваля арыштаў** беларускіх літаратараў (пра арышты, праведзеныя польскімі ўладамі ў Заходняй Беларусі ў 1927—1929 гадах, калі былі арыштаваны Ф. Акінчыц, А. Альшэўскі, Я. Бабровіч, А. Галавінскі, Х. Ільяшэвіч, Ф. Каравацкі, С. Клінцэвіч, М. Краўцоў, А. Луцкевіч, Я. Мамонька, М. Машара, П. Мятла, С. Новік-Пяюн, У. Паўлюкоўскі, П. Пестрак, В. Рагуля, С. Рак-Міхайлоўскі, Б. Тарашкевіч, С. Хмара і іншыя, трэба гаварыць асобна) **пачалася ў канцы чэрвеня 1930 года. На працягу двух месяцаў былі арыштаваны больш за пяцьдзесят таленавітых сыноў Беларусі:** А. Адамовіч, М. Азбукін, А. Бабарэка, П. Бузук, М. Грамыка, У. Дубоўка, А. Дудар (у ссылцы), Я. Дыла, Ф. Ждановіч, У. Жылка, В. Ластоўскі, Я. Лёсік, С. Некрашэвіч, У. Пічэта, А. Сак, Я. Пушча, В. Шашалевіч, Б. Эпімах-Шыпіла, Аляксандр і Іван Цвікевічы, браты Максім і Гаўрыла Гарэцкія, Чэслаў і Леапольд Родзевічы...

**ДРУГАЯ моцная хваля арыштаў пачалася 23 лютага 1933 года.** Толькі за адну ноч нкусаўцы арыштавалі дзесяць беларускіх пісьменнікаў: С. Астрэйку, З. Віталіна (Сергіевіча), Ф. Гінтаўта, У. Дудзіцкага, М. Кавыля, Л. Калюгу, С. Ліхадзіеўскага, М. Лужаніна, С. Русаковіча, Ю. Таўбіна (?).

**ТРЭЦЯЯ і самая "доўгая" хваля арыштаў пачалася (па так званай "разнарядке") увосень 1936 года і працягвалася да пачатку-сярэдзіны 1938 года. За паўтара года рэпрэсіравана больш за дзвесце чалавек (шмат хто паўторна):** А. Адамовіч, М. Азбукін, М. Аляхновіч, З. Астапенка, А. Бабарэка, М. Багун, С. Баранавых, П. Бузук, Я. Бяганская, А. Вольны, І. Воўк-Левановіч, П. Галавач, У. Галубок, Ц. Гартны, браты Максім і Гаўрыла Гарэцкія, С. Грахоўскі, А. Дудар, У. Дубоўка, А. Дзяркач, Ф. Ждановіч, І. Замоцін, М. Зарэцкі, А. Звонак, В. Каваль, У. Клішэвіч, Т. Кляшторны, Ф. Куляшоў, В. Ластоўскі, А. Сак, Т. Лебяда, Я. Лёсік, Ю. Лявонны, В. Маракоў, Б. Мікуліч, Я. Нёманскі, А. Пальчэўскі, М. Піятуховіч, П. Пруднікаў, С. Рак-Міхайлоўскі, Я. Скрыган, Л. Случанін, А. Смоліч, В. Сташэўскі, М. Сяднёў, А. Сянкевіч, Б. Тарашкевіч, Ю. Таўбін, У. Хадыка, І. Харык, В. Хомчанка, М. Чарот, К. Чорны, С. Шушкевіч...

**ЧАЦВЁРТАЯ хваля арыштаў пачалася ўвосень 1939 года, пасля ўз'яднання з Заходняй Беларуссю.** Арыштавалі Ф. Абрантовіча, Я. Бабровіча, Я. Найдзюка, Ф. Кушаля, М. Краўцова, В. Багдановіча, А. Луцкевіча, А. Уласава, І. Баранкевіча, Я. Пазняка, У. Самойлу, В. Жук-Грышкевіча, С. Новіка-Пеюна, В. Рагулю, С. Сахарава, Я. Станкевіча, П. Сыча, А. Уласава, С. Хмару, Я. Чабора... Лёс злітаваўся толькі над М. Танкам, В. Таўлаем і яшчэ некалькімі "заходнікамі".

**ПЯТАЯ хваля арыштаў пачалася ў канцы 1944 года і працягвалася амаль да самай смерці І. Сталіна.** Арыштоўвалі выцягнутых з Захаду падманам або сілай "уцекачоў" (М. Байкова, К. Езавітава, Т. Лебяду, Л. Случаніна) і паўторна "недабітых" у трыццатыя гады нацдэмаў: А. Александровіча, М. Ганчарыка, С. Грахоўскага, У. Дубоўку, Б. Мікуліча, А. Пальчэўскага, С. Сахарава, Я. Скрыгана, М. Улашчыка, М. Хведаровіча, С. Шушкевіча і іншых.

Самымі маладымі сярод больш чым 500 арыштаваных беларускіх літаратараў з'яўляюцца: паэт Міхась Кавыль (Язэп Лешчанка), празаік Васіль Хомчанка, літаратар Яўген Калубовіч (усе рэпрэсіраваны ў васемнаццаць гадоў). У семдзесят адзін год арыштавалі мовазнаўца Браніслава Эпімах-Шыпілу.

Самымі маладымі сярод расстраляных, верагодней за ўсё, былі аўтар паэмы "Бенгалія" (пакуль не знойдзена), выпускнік славутага мінскага Белпедтэхнікума Сяргей Астрэйка (расстраляны ў 24 гады), паэт Уладзімір Кавальскі (пісаў на польскай мове) і выпускнікі яшчэ аднаго "гнязда нацдэмаў", мінскага вышэйшага Белпедінстытута, крытыкі Саламон Левін і Пятро Хатулёў (расстраляны ў 25 гадоў). У 69 гадоў расстралялі (відаць, у Маскве) пісьменніка Гілеля Калмансона (магчыма, разам з сынам гісторыкам і паэтам Лабары Лялевічам-Калмансонам).

Па колькасці арыштаў (залічаны арышты, якія былі праведзены расійскімі царскімі і савецкімі, польскімі, літоўскімі і нямецкімі ўладамі) "чэмпіёнамі" з'яўляюцца: **Анатоль Бонч-Асмалоўскі** (шэсць), **Міхаіл Гольман** (шэсць), **Язэп Мамонька** (шэсць), **Барыс Брэслаў** (пяць), **Андрэй Капуцкі** (пяць), **Язэп Лёсік** (пяць), **Варвара Бонч-Асмалоўская** (чатыры), **Аляксандр Вазіла** (чатыры), **Максім Гарэцкі** (чатыры), **Восіп Гласко** (чатыры), **Клаўдзій Душэўскі** (чатыры), **Паўліна Мядзёлка** (чатыры), **Сяргей Новік-Пяюн** (чатыры; арыштоўваўся польскімі, нямецкімі і савецкімі ўладамі), **Мікола Улашчык** (чатыры).

Тройчы арыштоўваліся: Ф. Аляхновіч, М. Анішчык, А. Бабарэка, Я. Бабровіч, І. Баранкевіч, У. Беняшэвіч, Р. Бонч-Асмалоўскі, М. Бурсевіч, П. Бузук, А. Бурбіс, У. Галубок, А. Гародня, Г. Гарэцкі, У. Дубоўка, А. Дудар, Я. Дыла, П. Жаўрыд, К. Езавітаў, П. Ільючонак, У. Каліноўскі, П. Каравайчык, І. Краскоўскі, Ф. Купцэвіч, В. Ластоўскі, Ю. Лістапад, А. Луцкевіч, А. Лябецкая, П. Мятла, А. Неманцэвіч, К. Петрусевіч, В. Рагуля, С. Рак-Міхайлоўскі, Р. Сабаленка, Б. Тарашкевіч, В. Таўлай, А. Цвікевіч.

Карная машына не кранула: Э. Агняцвет (Э. Каган), А. Астрэйку, В. Барысенку (В. Барысёнка), П. Броўку, Л. Бэндэ, З. Бядулю (С. Плаўніка), В. Вітку (Ц. Крысько), Ю. Віцьбіча (Г. Шчарбакова), В. Вольскага (В. Вольскага-Зэйдэля), П. Глебку, К. Губарэвіча, І. Гурскага, З. Жыткевіча, П. Кавалёва, М. Клімковіча, К. Крапіву (К. Атраховіча), А. Куляшова, Я. Купалу (І. Луцэвіча), А. Кучара, М. Ларчанку, Я. Ліманоўскага, М. Лынькова, Я. Маўра (І. Фёдарава), М. Модэля, Р. Мурашку, Я. Рамановіча, Я. Садоўскага, М. Цэлеша, Я. Шарахоўскага, А. Якімовіча і некалькі дзесяткаў менш вядомых аўтараў.

Вельмі нечаканыя вынікі высвятляюцца, калі супаставіць колькасць рэпрэсіраваных літаратараў Беларусі з колькасцю рэпрэсіраваных літаратараў іншых рэспублік былога СССР. Расійскі журналіст і даследчык Эдуард Белтаў (цяпер жыве ў Ізраілі) ужо больш за чвэрць стагоддзя збірае матэрыялы пра незаконна рэпрэсіраваных у 30-я — 50-я гады дзеячаў культуры, вучоных, ваенных і асобна (паводле прафесійных прыхільнасцей) пісьменнікаў. Па звестках Э. Белтава, на Украіне было рэпрэсіравана каля пяцісот літаратараў (загінула больш за сто пяцьдзесят). У Расіі каля 600. У гутарцы з журналістам штотыднёвіка "Книжное обозрение" Э. Белтаў расказаў: "Вопреки моим предположениям репрессированных русских литераторов оказалось меньшинство. Из тысячи погибших *(маецца на ўвазе увесь СССР; усяго, паводле даных Э. Белтава, у час культу асобы было рэпрэсіравана каля дзвюх тысяч літаратараў. —* **Л. М.**) примерно семьсот — писатели союзных и автономных республик. По национальным литературам был нанесен такой сокрушительный удар, что некоторые из них от него еще не оправились и вряд ли оправятся в ближайшее время".

**ВЫНІК: з 2000 рэпрэсіраваных у СССР літаратараў каля 500 (чвэрць) прыпадае на Беларусь, колькасць насельніцтва якой складала ў час рэпрэсій у СССР менш за 5 працэнтаў.**

...Першага жніўня 1937 года на вялікім вогнішчы ў "амерыканцы" гарэла некалькі дзесяткаў тысяч (!) рукапісаў. Гарэлі творы, якія не "праскочылі" цэнзуру або пісаліся "ў стол" для нас, нашчадкаў. Гарэлі рукапісы М. Багуна, С. Баранавых, А. Вольнага, П. Галавача, У. Галубка, Ц. Гартнага, М. Гваздова, С. Дарожнага, А. Дзеркача, А. Дудара, М. Зарэцкага, С. Знаёмага, В. Каваля, Т. Кляшторнага, Дз. Курдзіна, Ю. Лявоннага, В. Маракова, Я. Нёманскага, З. Півавapава, С. Ракіты, А. Розны, В. Сташэўскага, Б. Тарашкевіча, У. Хадыкі, І. Харыка, М. Чарота, В. Шашалевіча і многіх іншых. Гарэла амаль уся спадчына пісьменнікаў "першага прызыву". Няма чалавека — няма толькі адной праблемы. Няма рукапісаў — няма паэтаў, няма гісторыі, няма народа!

А выслоўю "рукапісы не гараць" я цяпер не веру...

**Леанід МАРАКОЎ.**
1997—2000 гады.

**P.S.** *Пры падрыхтоўцы спісаў вялікую дапамогу я атрымаў ад старэйшых нашых пісьменнікаў* ***С. Грахоўскага, П. Пруднікава,*** *вядомых даследчыкаў* ***У. Адамушкі, А. Мальдзіса, У. Міхнюка, Л. Савік, Я. Саламевіча, В. Скалабана, Я. Янушкевіча,*** *супрацоўнікаў* ***Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Беларускай Энцыклапедыі, Нацыянальнага архіва Беларусі, Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, Дзяржаўнага літаратурнага музея Я. Купалы, іншых дзяржаўных і грамадскіх арганізацый.***

*Адзначым, што ў спісы не ўключаны літаратары, біяграфічныя звесткі пра якіх не былі апрацаваны да моманту здачы матэрыялу ў друк: Г. Аляксандраў, Рыгор Бахта, Пётра Беларус (Яленскі), Ганна Брэская, Сяргей Бусел, П. Бяліна-Падгаецкі, Язэп Вазёрны (брат У. Дубоўкі), Міхась Ключановіч, Міхась Каршук, Аляксандр Крапачоў, Аляксандр Круталевіч, Тодар Курбацкі, М. Лябовіч, Антон Лёсік, Янка Марук, Аляксандр Некрашэвіч, Мікола Нікіцін, Уладзімір Прыбыткоўскі, Аляксей Сідарэнка, П. Харламповіч, Лявон Цвяткоў, Антон Цвячкоўскі, Мікалай Чарнушэвіч, Хведар Чарнышэвіч (усяго каля пяцідзесяці чалавек).*

*Аўтар будзе вельмі ўдзячны сваякам рэпрэсіраваных, даследчыкам, чытачам за дапамогу па ўдакладненні прыведзеных даных і паведамленне новых звестак.*

АНДЭГРАЎНД. ФОТАНАТАТКІ Алёны ГОРМАШ



# ЯКАЯ БЫВАЕ РАДЗІМА



■ З вышыні птушынага палёту ўглядаюцца ў праваслаўную Беларусь чырвоныя дакорлівыя цаглінкі каталіцкага касцёла. Чарада душ, чапляючы крыламі крыжы, ляціць на ўсход, да сонца.

■ Свідравіна ў плоці люмпена на праспекце Скарыны выпусціла з клетак армію эрытрацытаў, і зараз гемаглабінавы свет сатрэ ў мазгавой звіліне нацыі слова, якому нас дарэмна вучылі ў школе — спачуванне (або спагада).

Чароўная палачка плямістых дэвідаў каперфільдаў кранецца гумаю каленных чашачак інтэлігенцыі (якая, дарэчы, у масе сваёй — быдла, якое моцна п'е і балбоча), і ў гэтай краіне ўсё стане на свае месцы. Першыя ніколі не стануць апошнімі, а апошнія — першымі. Віват!

■ Бадзяжны сабака Менталітэт, апараны поварам-дзяржавай, пойдзе па дарогах з пустым страўнікам і бязмежнай, даўняй тугою ў змучаных карых вачах.



## ДАРОГІ І ...

■ Дарога ў Траецкім. Удалечыні — царкоўныя крыжы драпаюць небапрасціну не першай свежасці; тут, па бруку, ідзе чалавек у чорным. Калейдаскоп іншамарак прыветна ківае аддушыне урбанізацыі. Чалавек, не заўважаючы ўздыхаў жывога шэрага каменя, які патануў усёй замшэласцю ў лубачных карцінках фасада, заглядвае ў вокны, спрабуючы ўбачыць кружок адэптаў, сканцэнтраваных над спірытычнай кнігаю. Брук гойдаецца хвалямі, узнімаецца на дыбкі, але не ў сілах адарвацца — каналізацыйныя, саўковых часоў люкі намертва прыбілі яго да зямлі. Дарога ў Траецкім уецца змяёй, выварочваецца ад будучага стагоддзя, хітруе. Яна ведае цану. Цану сабе, Цішыні і Легендзе.



■ Пілігрымы — аўтастоперы і уцілітарысты, прапаведнікі духоўнай беднасці і рамантыкі, маргіналы і канфармісты — дзесяткі тысяч людскіх ножак — у дрэнным абутку і добрым — вытапталі тайну вулачак-дарожак Траецкага прадмесця. Цывілізаваная Паркавая магістраль, абняўшы за талію распаўнелы гатэль "Юбілейны", здзіўлена сочыць за карпатлівай работай камерцыі, якая ўе гнёзды на дахах прадмесця для піўнушак, бараў, міні-шашлычных і закусачных з мудрагелістымі вывескамі на пракураных ілбах.

■ Уначы старадаўнія будынкі жаляцца на лёс Востраву Слёз і выцягваюцца ў струнку, стараючыся ўбачыць свой адбітак у Нямізе, якая яшчэ спіць, а з "Старавіленскай карчмы" даносіцца хрыплы голас дзяўчынкі Алсу. Дарогі спяць... І толькі раніцай па бруку гулкім рэхам стукаюць абцасы Чалавека ў чорным, начнога госця Сяргея Ясеніна.

## ЗАПІСЫ НА БІЛЕТАХ

■ Аўтавакзал "Усходні". Голуб на кульцяшках шукае хлебныя крошкі апавядальнай жыццёвай масы, нанізанай на банальны шампур сюжэта. Пыльныя чаравікі ўздыхаюць аб антрэсолях і камароўска-кітайскіх шчотачках. Лёс дальнабойшчыцкай шафярні тужыць упрыкуску з нотнай граматаю Мішы Круга. А сізакрылы фраярок падбіраецца ўсё бліжэй, агароджваючы фальшам адчуванне паўнаты жыцця і назаўсёды пакідаючы п'едэстал "сімвала міру" ў птушыных вачах сатаварышаў.

Недабіты "бычок" дня, які датлявае, параджае няхітрыя думкі ў педыкулёзных галоўках непаўналетніх "гаспадароў жыцця", якія шнараць па кішэні вакзала. Я бы дала гэтым дзеткам, ды няма чаго. ...А можа, проста шкада апошніх дваццаці рублёў, якія, магчыма, папоўняць доўгі спіс цынізму, інкрымінуемы мне спадзвіжнікамі Сусветнага Карбанарыя на Судзе. Страшэнным.

Шчотачкі, дзеткі, шафярня... Аўтобус адышоў. Злосць і чарговы прыступ у дзяўчынкі-цыніка.

■ Рудыментарны комплекс мужчынскага гонару размазаў мяне па сцяне вагона метро. Выбітыя з мазгоў шматлікія фантомы сэнсу жыцця ціха аганізавалі пад ножкаю ядзернага грыбка гіпертрафіраванага кансьюмерызму (агульначалавечы інстынкт) — схапіць і паспець. Мужык нявызначанага ўзросту піўным жывоцікам пэўнай стадыі развіцця затыкаў дзіркі банальных размоў і горача дыхаў мне ў карак (мусіць, вынікам раптоўнага ўчарашняга разумення ўсяго жаху радавога несвядомага шлюбу і сексу як агульнадаступнай формы жыццёвай рэалізацыі). Істэрыя існаснага душэўнага недахопу павяла яго ўбок, даючы мне магчымасць адарваць сябе ад дзвярэй і развярнуцца. Утыкаюся ў адкрытую кніжку не "метрошнага" фармата:

— Это водка? — слабо спросила Маргарита. Кот даже подпрыгнул на стуле от обиды.

— Помилуйте, королева, — прохрипел он, — разве я позволил бы себе налить даме водки? Это чистый спирт!

На твары дзяўчыны, што абапіралася на поручань, з'явілася кніжна-булгакаўская хітрасць. Шоўк, шалікам абдымаючы пяшчотную дзявочую шыйку, струменіў водарам "Фіджы". Славянскую галоўку, нашпігаваную Камю і Сартрам, рабілі надзвычай замілавальнай веснавыя плямкі на высокім ілбе.



Дзяўчына не прыдумвала па начах эталонавага адрасата псеўдапакут, не размазвала туш па падушцы і не чакала ў акне свайго пятага паверха Прынца-на-Белым Кані.

Дзяўчына была прагматыкам.

Булгакаў закалыхваў; вагон, раскідваючы пучкі электрычнага святла, імчаўся да "Пушкінскай".

■ ...На станцыі метро "Пушкінская" постаць у бежавым шчакою сагравала халодны чыгун рашоткі, не рашаючыся нырнуць у канцэнтрацыю цемры з трывіяльнай таблічкай "М".

Злосны сакавіцкі сабака-вецер, плебейскі жартаваў: тузаў за русыя валасы, расшпільваў гузікі паліто, свістаў услед за думкамі. Думкамі, якія ўцякалі ад абрыдлага свету.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 12

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 7. "Мінск". 8. Камар. 9. Нёман. 10. Крама. 12. Індыя. 15. Сяло. 16. Кук. 18. Гуно. 19. Слуп. 21. Пума. 23. Рамонак. 25. Невад. 27. Гарох. 28. Аніс. 29. "Мара". 30. Порах. 33. Замша. 35. Лучанок. 37. Трус. 38. Нета. 39. Фтор. 41. Ака. 43. Ліпа. 45. Аракс. 47. Крыга. 49. Келіх. 50. Міёры. 51. Лазня.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Вілія. 2. Ікар. 3. Ранак. 4. Палік. 5. Анды. 6. Наган. 10. Коска. 11. Амур. 13. Друк. 14. Ягада. 17. Убор. 20. Папірус. 21. Парасон. 22. Перон. 24. Богша. 26. Дах. 27. Газ. 31. "Астра". 32. Банк. 33. Апала. 35. Лупа. 36. Кеды. 40. Талер. 41. Аспід. 42. Акорд. 44. Поўня. 46. Рэха. 48. Гала.

## ГУМАР

— Абвінавачаны, што вы думаеце сказаць у сваё апраўданне?

— Я прашу прыняць да ўвагі маладосць майго абаронцы.

* * *

— Падсудны, вы ўкралі ў суседа кларнет. Чаму? Вы ж не ўмееце на ім іграць!

— Канешне, спадар суддзя, але сусед — таксама.

* * *

Аптыміст і песіміст разважалі пра будучыню і сышліся на думцы, што яна не прадказвае нічога добрага.

— Пры такіх тэмпах інфляцыі, — сказаў аптыміст, — мы хутка пачнём жабраваць.

— Жабраваць? — здзівіўся песіміст. — А ў каго?

## СМАЧНА ЕСЦІ!

### ШНІЦЭЛЬ ПА-ГРОДЗЕНСКІ

Мякаць свіной карэйкі нарэзаць на кавалкі, адбіць, пасаліць, абмакнуць у яйка, запаніраваць у сухарах і падсмажыць.

Адвараную бульбу стаўчы, дабавіць жаўткі яек, масла, соль, цыбулю і перамяшаць.

Прыгатаваць шарыкі. Намачыць іх у яечных бялках, запаніраваць у муцэ і абсмажыць у фрыцюры. Шніцэлі пакласці на абсмажаныя лустачкі белага хлеба і падаць з бульбянымі шарыкамі, паліўшы іх грыбным соусам.

***400 грамаў свініны, 1 яйка, 4 сталовыя лыжкі паніровачных сухароў, 4 лустачкі белага хлеба, 1 сталовая лыжка топленага сала, спецыі, соль.***

### СОУС ГРЫБНЫ

Прасеяную пшанічную муку падсмажыць да жоўтага колеру і, не даўшы астыць, развесці гарачым грыбным булёнам. Атрыманы соус варыць на слабым агні 15—20 хвілін і працадзіць. Дробна нарэзаную цыбулю абсмажыць у алеі, перамяшаць з нашаткаванымі варанымі грыбамі, абсмажыць і перакласці ў соус, дабавіць соль і пракіпяціць.

***3 шклянкі грыбнога булёну, 30 грамаў сушаных грыбоў, 2 сталовыя лыжкі мукі, 1 цыбуліна, 3 сталовыя лыжкі алею, соль.***

### САШНІ БЕЛАРУСКІЯ З ТВАРАГОМ

Адварную ў мундзірах бульбу абабраць і стаўчы, дабавіць муку, яйка, соль, добра размяшаць і сфармаваць у выглядзе ляпёшак. На сярэдзіну пакласці фарш з тварагу, змешанага з сырым яйкам, і зашчыпнуць па баках. Сашні запаніраваць у муцэ, абсмажыць з абодвух бакоў у алеі. Падаць у гарачым выглядзе з маслам ці смятанай.

***10 бульбін, 5 сталовых лыжак мукі, 1 яйка, 4 сталовыя лыжкі сметанковага масла ці 3 сталовыя лыжкі смятаны, соль.***

***Для фаршу: 200 грамаў тварагу, 1 яйка.***

### САСІСКІ ПА-БРЭСЦКІ

У жаўткі дабавіць соль, муку, алей, старанна перамяшаць і развесці малаком да кансістэнцыі густой смятаны. Бялкі ўзбіць у пену, пакласці ў цеста і асцярожна размяшаць. Сасіскі памачыць у цесце, абсмажыць на гарачай патэльні ў фрыцюры да ўтварэння залацістай скарынкі.

***350 грамаў сасісак, 1,5 сталовай лыжкі мукі, 2 сталовыя лыжкі малака, 2 яйкі, 1 чайную лыжку алею, 3 сталовыя лыжкі свінога сала, соль.***

Падрыхтавала Таццяна КУВАРЫНА.

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ.
Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК.
Адказны сакратар Таццяна КУВАРЫНА.
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі Яўген ЛЕЦКА.
Рэдактар аддзела Алена СПАСЮК.
Аглядальнікі Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.
Спецыяльны карэспандэнт Нэлі ПРЫВАЛАВА.
Рэдактар-перакладчык Святлана КАРПУЧОК.
Стыльрэдактар Ірына КАЗЛОВА.
Тэхнічны рэдактар Данута РАКАВЕЦ.

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 1354.
Падпісана да друку 29.5.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).